ББК 84 Бел7
4-21

Прежние, не такие уж и далекие времена, которые справедливо нарекали застойными, породили на белый свет немало негативных проблем и явлений, немало людей, чей духовный облик, мораль и нравы никак не совмещаются с нынешним обновленным днем. Именно против них — карьеристов и подхалимов, бюрократов и волокитчиков, и направлены острые обличительные слова поэта-сатирика Миколы Чернявского.

**Ч 4702120202— 002 / М302(03) -93 - 61 — 93**
**ISBN 5-340-00921-1**

© М. М. Чарняўскі, 1993 г.

© OCR: Камунікат.org, 2012
© Інтэрнэт-версія: Камунікат.org, 2012
© PDF: Камунікат.org, 2012

# НАМЕНКЛАТУРНЫ ШПУНТ

**НУКАЙЛА**

Рукамі трос,
Панукваў, рос —
Дабраўся да пасады.
Яшчэ трымаў па ветры нос:
«Ці сівер,
Ці пасаты?..»

Каб чуўся рух,
Каб чуўся зрух,
Каб поспехі буйнелі,
Не выпускаў ён лейцаў з рук
Напятымі
Звінелі!

З вазка
Заўзята кіраваў,
З вазка
Відней, вядома.
За лейцы тузаў,
Не даваў
І рот раскрыць нікому!

Нос
Пнуўся ўпэўнена ўгару,
А з ім —
І сам начальнік:
Для падначаленых —
Пярун,
А для вярхоў —
Маўчальнік.

Ён падганяў,
Ён горла драў,
Нукайла знакаміты,
Ды ўсё ж разгон марудна браў
Вазок,
Стары, разбіты.

Возляскатаў,
Зрабіўшы крэн
Да ўзбочыны-адхону...
О, рэзкі вецер перамен,—
Кульнуў яго
З разгону!

Нукайла ў скрусе —
Не вярнуць
Ні лейцаў,
Ні пасады...
Чакае ўсё ж:
«Мо падбяруць,
Мо зноў падзьмуць пасаты?..»

**ДЭМАГОГ**

Словы сыпаў, як гарох,
Тоўк ваду —
Грымела ступа!
Зваў наперад дэмагог,
Сам жа —
Ззаду звыкла тупаў.

Ён трубіў, нібыта ў рог,
Пра здабыткі ўсё,
Пра якасць.
І, вядома ж, дэмагог
Кожны раз
Любіў паякаць.

Каб узняцца, кідаў стог —
Слоў хапала ў дэмагога!
Узнімаўся дэмагог
Да высокага парога.

Ён іржышча за мурог
Выдаць мог, ды адмыслова.
Жыў, бы ў казцы, дэмагог,
І на справе,
Не на словах.

Ён дабіўца ўмеў свайго,
Магам стаўшы нечакана:
Ці ж не слухалі яго
З году ў год зачаравана?

Хоць — на шчасце —
Новы час
Дэмагогу даў адмову,
Боязь ёсць:
Хутчэй за нас
Пройдзе ён перабудо'ву.

Як раней,
пабыць карціць
Ля трыбун,
Навідавоку.
Як раней,
ён тупаціць,
Хоць не спераду,
Дык — збоку.

## МЕЛІЯРАТАРЫ... ДУШ

Дзе ні гляну — канавы, каналы...
Не пустыні, адкуль жа ўзяліся?
Можа, гэта рачулкі сканалі,
Слёзы іх расцякліся?
Разлічылі дакладна
Стратэгі-чынушы:
Мелкія рэкі —
Мелкія душы.
Чым вузейшая рэчачка тая,
Тым хутчэй зарастае
Асакою,
Аерам,
Чаротам...
Стануць душы глухім балотам:
Лезь, тапчыся там
Чорным ботам!
Ка́ні ўскрык над здзічэлым лугам.
Боль у сэрцы, рубцы на целе:
Як і рэчышчы, сталінскім плугам
Павыпростваць нам душы хацелі.

Тройчы выклятыя Курапатамі,
Шчыравалі, як д'яблы, прывычна
Рэканструктары-меліяратары
Душ людскіх, першародна-крынічных
Спеў бруісты крамолай здаваўся,
Чысціня іх сляпіла вочы...
Хто ўцалеў, хто з магілай спаткаўся,
«Варанком» раскатурханы ўночы.
Разлічылі дакладна
Вар'яты-клікушы:
Прамыя рэкі —
Крывыя душы.
Чым цішэйшая рэчачка тая,
Тым хутчэй зарастае
Асакою,
Аерам,
Чаротам...
За чаротам жа —
Як за дротам:
Хто пачуе,
Адкуль ты родам?
Дзе ні гляну — канавы, каналы...
Быццам слёзы наўсцяж расцякліся...
Знаю: гэта рачулкі сканалі,
Пад прымусам
Імён адракліся.
О-о-о, падзёншчыкі зналі,
Ім выпала ўцяміць:
Знямелыя рэкі —
Знямелая памяць;
Знямелая памяць —
Змярцвелыя душы;
Змярцвелыя душы —
Позірк патухшы;
Позірк патухшы —

Халодныя сэрцы,
Не сэрцы —
Зняверцы!
Халодныя сэрцы —
Чорныя рукі;
Чорныя рукі —
Ні жалю, ні мукі;
Кроў халодная ў жылах цячэ!

...Гэта чую і сёння яшчэ!

**ПРАСВЯТЛЕННЕ?**

Хоць тады з суседам разам
Не тырчаў ля крам, не стыў,
Ды той час —
Застойным часам,
Як вядома сёння,
Быў.

Хоць за праўдаю знябытай
Разглядзець няпраўду мог,—
Не заўважыў,
Як аблытаў
І душу, і думкі мох.

Не ўпіраўся,
Не пярэчыў:
Што ні крок —
Глыбей у лес.
У палон
Хлусні і рэчаў
Сам,
Як сёння бачу,
Лез!

З году ў год
Пад маршы-песні
Тупаў бойка,
Ім у лад:

Ногі — ўперад
Борздка неслі,
Галаву ж —
Вяло назад.

Можа, выдумкай пустою
Гэта раптам усплыло?
Можа, гэтага застою,
Як маны ўсёй,
Не было?

Думаў я:
Мой плён нятленны,
Забаўляўся гаманой.
А настала прасвятленне —
Спахапіўся:
Што са мной?

Час застойны —
Быў я здольны
Ліць ялей ды ў ладкі біць.
Час застойны —
Час застольны,—
Галава й цяпер баліць!

**ШТУКАР**

Жыў штукар, ды знакаміты —
З пустасловаў пустаслоў:
Языком —
ён сеяў жыта,
Языком —
Яго малоў.

Цеста ён з хлусні замешваў,
Не адну дзяжу зглуміў.
Родных дзетак —
Нават смешна!—
Абяцанкамі карміў!

Замаўляў ён людзям зубы,
Замаўляў да нематы.
Быў яшчэ занятак любы —
Плёў штукар
Кашы з лухты.

Плёў іх «мудра», плёў іх дбала,
Ды карысці не дало:
Што б у кош той ні трапляла —
Ў ім нібыта й не было!

Каб народ ад дзіва войкаў,
Дахі ён паперай крыў.
І настойку,

І застойку
Ад хвароб усіх варыў.

Звычку меў: у госці пойдзе
Медалёк прывалачэ...
Жыў штукар…
Не-не, пастойце:
Можа, ён жыве яшчэ?

**ХВАРОБА**

Што была за хвароба? —
Губляў я сцяжынку.
Што была за хвароба?—
Не ўцямлю, бядача:
Часта ў воку чужым
Заўважаў
            парушынку,
А ў сваім, як ні дзіўна,
Калоды
Не бачыў!

Што была за хвароба?—
Глядзеў апантана:
Бачыў сонца ды зоркі,
Бачыў далі ды ўзгоркі,
А не мог разглядзець
Ні хмурын,
Ні туману,—
Блізарукі я быў,
Ці хутчэй —
Дальназоркі?

Рваўся ўвысь,
У сусвет адчыняючы дзвер
На зямлі ж —
Я кружляў
Без удачы-зарукі.

Ні жыццё,
Ні людзей —
Бачыў толькі... паперы,—
Дальназоркі я быў,
Ці хутчэй —
Блізарукі?

Што была за хвароба?—
Губляў я сцяжынку.
Што была за хвароба?—
Не ўцямлю, бядача:
Часта ў воку чужым
Заўважаў парушынку,
А ў сваім, як на грэх,
І калоды не бачыў!

Можа, гэта ўсё дробязь,
Для хваробы — замала?
Дык чаму ж, паглядзіце,
Нібы пад прынукай
З гэтых самых калод
Нарабіў я завалаў?—
Каб прыбраць,
Хопіць клопатаў, пэўна,
Іўнукам!

Што была за хвароба?
Што сядзіць за хвароба?
Хто падкажа мне лекі?
Ды ці мне аднаму?..

**ШПУНТ**

Хоць мог на пуд,
Рабіў — на фунт,
Хоць перуны грымелі,—
Ды ўсё-ткі заставаўся Шпунт
Пры крэсле,
Пры партфелі.

Лятаў туды,
Лятаў назад.
Кракатаў: «Такая доля...»
Аж пяцьдзесят
Змяніў пасад,
А можа, нават болей!

Лятаў,
Бо з грукатам глухім
Шпурляла «зверху» слова:
Заткнуць, бывала,
Дзірку ім,
Ды ведаў Шпунт —
Часова.

Ён вылятаў,
Бо кіраваў,
Куды б ні ткнулі,
Слаба:
Была у Шпунта галава,

Ды не таго маштабу.

Чаго ў жыцці ні паспытаў
Па волі лёсу-року:
І вылятаў,
І адлятаў,
Ды быў навідавоку.

Не даў згубіцца
Цвёрды грунт
Чыноўнага даверу:
Быў пад усе ён бочкі шпунт,
Як мог,
Рабіў кар'еру.

Хоць не адзін гузак набіў,
Застаўся ў крэсле ўтульным,
Бо гэты Шпунт
Не простым быў,
Ён быў —
на-мен-кла-тур-ным

**ДАЎГІ**

Меўся ўзяць ён абцугі —
Вырваць культу цвік іржавы.
Стаў таварыш Дарагі
Стырнавым усёй дзяржавы.

І пацёк руччом ялей,
Заспявалі: «Бацька родны...»
Абцугі схаваў далей
Ён тады: «А цвік — прыгодны..

Пахвала, нібы дамкрат,
Хоць памалу,
Ды ўзнімала:
«Праўдалюб і дэмакрат,
Кіраўнік, якіх замала!»

Пышнай славы пірагі
Выпякалі словаблуды:
«Дарагі...» ды «Дарагі...»
І ўзахлёб заўжды,
І — ўсюды.

Балбатні хлуслівай хлуд
Біў па думках,
Лез у душы.
Словаблуд і лізаблюд
Селі ў покуць, як чынушы.

І ў застольным тлуме тым
Не заўважылі ў гаворках:
Дарагі стаў... залатым —
З галавы да ног
У зорках!

Што ні дзень, рамень тужэў
Не прымаў прамоў крылатых.
Дарагі ўсё даражэў,
Ды не ў сэрцах,
А ў дакладах.

Рос «прэстыж»— раслі даўгі.
Ці ж да іх —
Да славы падкім?

...Спіць таварыш Дарагі,
А даўгі вяртаць —
Нашчадкам.

## НЕДАВЕР

Недавер —
Дрымотны звер:
Дзе — знарок,
А дзе — падспудна
Ён цікуе,
Недавер,
З пушчы нашых душ
Паўсюдна.

Дзе ступіў?
Куды ступіў?
Што наўме ў хвіліну гэту?..
Востры позірк
Не ступіў
І не кануў ён у Лету.

Падазронасці — сваяк
І яе найпершы лёкай,
Недавер за грош, за так
Служыць ёй
З пары далёкай.

Выглядае недавер,
Як шашок,
Грызе свядомасць:
«Не праверыў — дык правер:
Гэта лепш, чым невядомасць

Хоць гушчар не той цяпер,
Ды і сам аслаб як быццам,—
Не здаецца
            недавер —
У давер
Ён хоча ўбіцца!

Ён спакою не дае
Ні ў святочны дзень,
Ні ў будзень...
Ці ж не страшны
            недавер,
Як і звер падбіты,
Людзі?

Не цяпер, дык у чацвер
Хіба з логава не ўстане?
Хіба зноўку
            недавер
Не зачэпіць,
Не дастане?..

Недавер —
Што хіжы звер,
След яго ў душы крывавіць...
Недаверу —
Свой давер,
Як заслон,
Змагу паставіць?..

**СЕНЬКАВА ШАПКА**

Ён выступаў з трыбун падчас,
Хадзіў на задніх лапках.
Яго заўважылі:
«Саўгас —
Якраз па Сеньку шапка...»

Заняў ён гулкі кабінет —
Метал з'явіўся ў нотках.
Яшчэ ж у Сенькі неўпрыкмет
Змянілася паходка.

Перад начальствам—як раней,
Ступаў без лішніх рухаў,
Перад рабочымі ж —часцей,
Нібы па бруку,
Грукаў.

Яны паўшэптам,
            праз парог,
Пыталі ў сакратаркі:
— Ён сёння ўстаў
            з абедзвюх ног
Не туране ў тры каркі?

Ці быў урод,
Ці быў няўрод —
Не зводзіўся дастатак:

Тут меўся
«Дойны» спіртзавод,
Тут меўся
«Дойны» статак.

Хапала ўсім, хто налятаў,
Хто наязджаў часценька...
Хто б ні пісаў,
Што б ні пісаў,—
Стаяў, бы крэпасць, Сенька.

Саўгас грымеў на ўвесь раён,
Хоць мала меў прыварку.
А Сенька што?
Даводзіў ён
Да ручкі гаспадарку...

Хто патураў яму —
          пайшлі,
І Сенька здаў сявеньку:
За імі ўслед
          яго знялі —
Далі па шапцы Сеньку.

Куды ж турнулі ?
Дзе прыстаў?
Я чуў, і мне паверце:
Ён зноў прымерваць шапку стаў,
Ды ўжо —
У сельсавеце...

**ПАДНОЖКА**
**альбо**
**З ФУТБОЛЬНЫХ МАТЫВАЎ**

Крычаў «суддзю на мыла!» і абсвістваў
Хлапцоў у полі,
Што занялі мяч...
...З гадамі сам на месца футбалістаў,
Здаецца, стаў я —
Бегаю наўскач!

З упартасцю,
З жаданнем непадзельным —
Прайсці,
Прабіцца,
Абмінуць,
Узяць —
Імкнуся быць
У цэнтры нападзення:
Атакаваць,
Атакаваць,
Атакаваць!

Гарачае дыханне за спіною:
Падножка будзе —
Чую ўжо на слых...
Як мяч той,
Коціцца перада мною
Клубок надзён765ных клопатаў маіх.

Ад выкрыкаў,
Ад свісту не схавацца.
А думкі стынуць:
«Гэта ж — не тады.
Пры нашым дэфіцыце
Можа стацца —
Мяне на мыла
Пусцяць сапраўды!..»

Шчыльнейшай стала з часам
Абарона —
Камар, бывае, не прашчэміць нос!
На абарону ўвесці б
Забарону —
Прабіўся б з ходу,
Трапны ўдар нанёс!

...Я атакую краем, рэжу вугал!
Падножка ці падкат —
Не разабраць...
Не ўсё ў жыцці,
Як мяч,
Бывае круглым,—
Таму і трэба
Шмат атакаваць!

## ХАПАРВАЧ

Хоць меў на ўсё зайздросны зуб,.
Спярша не рваў, а толькі — скуб:
На капейку,
На пятак,
На рубель,
На чацвяртак...
Дзёўб адно, бы дзяцел, Грышка:
«Жыць без грошай —
Прападзеш!
Дзякуй, братачка, на кніжку
Ці ў кішэнь —
Не пакладзеш...»
Праходзіў час — размах шырэў,
Бо ён штодня, як мог, шчырэў:
Пагрэць руку настрой не ўпаў.
Ды ўжо не скуб, ды ўжо хапаў:
Тут — па сотні,
Там — па тры.
Быў занятак па нутры.
Дзёўб адно, бы дзяцел, Грышка:
«Жыць без грошай —
Прападзеш!
«Дзякуй», братачка, на кніжку
Ці ў кішэнь —
Не пакладзеш...»
Ды разгарэўся зуб — замала !
А можа, хопіць хітраваць?

І ён адразу, дзе трапляла,
Пачаў скубці, хапаць і рваць!
Дзёўб адно, бы дзяцел, Грышка
«Жыць без грошай —
Прападзеш!
«Дзякуй», братачка, на кніжку
Ці ў кішэнь —
Не пакладзеш...
Як не паставяць раптам пасткі,
Я, што надумаў, нажыву.
Хоць разарвуся сам на часткі,
Але ўхаплю,
Але ўварву!..»

За гэтым клопатным разлікам
Не згледзеў ён у спешцы дзён:
Сынок падрос... Не шыты лыкам,
Увесь у бацьку ўдаўся ён.

І сын ужо яго не горш,
Пачаў скубці, пачаў — з яго ж!
Як дварняк, шматае Грышку:
«Жыць без грошай —
Прападзеш!
«Дзякуй», татачка, на кніжку
Ці ў кішэнь —
Не пакладзеш...»

## СТРЫЖКА З... ІНТРЫЖКАЙ

Цэны ў нас цяпер з інтрыжкай.
У цырульню загляні:
Паўрубля плаціў за стрыжку,
А цяпер — паўста гані?

Бач, ранейшыя мадэлі
Аджылі, пайшлі ў нябыт.
Бач, прычоскі памаднелі
І — падскочыў дабрабыт.

Рынак вызначыў мішэні,
Б'е ж па нас ён, па сваіх.
Гандляры стрыгуць... кішэні —
Стрыжка модная і ў іх.

Пасабляў ім, стаўшы прытчай,
Прычапны пяціпрацэнт:
Што рабіць, калі ўжо «стрыгчы»
Іх вучыў
Сам прэзідэнт?!

## НАЧНЫ МАТЫЛЁК

Абцасаў пошчак на прыступках
Вячэрні змрок ускалыхне.
Суседка буркне:
　　　　«Прастытутка...»
І выгляне, іі ўслед зірне.

Як шлейф,
　　　　дымок ад цыгарэты
Расплыўся,
　　　　каб пад'езд замгліць..
Калоў ёй спіну
Позірк гэты,
Цяпер не чуе —
Не баліць.

Ёй ад яго цяпер не млосна.
Чамусь паверыла сама:
Ён — не калючы,
Ён — зайздросны:
«Жывецца ж, глянь,
Штодзень — фірма!..»

Сінеюць вейкі — часты ельнік:
Прыйшлося шмат паштукаваць,
Нібыта ў цень
Дрымучых веек
Ёй вочы хочацца схаваць.

На зыркі бляск агнёў гатэля
Ляціць у ноч,
Ляціць здалёк.
Напяты думкі, як антэны:
«Удача будзе, «матылёк»?»
Ці панядзелак, ці нядзеля —
Сумненняў рой не варушы:
Як крыльцы кволыя, надзея
Трапеча ўзрушана ў душы.
Хто зацікавіцца «таварам»?
Хто сёння трапіцца ў палон?.
Ці зграбны будзе, ці пачвара —
Начнога «шчасця» Апалон?

«Не паглядай, капшук, звысоку,
Бяры, хоць лысы ды стары...»
Гарадь густым румянцам шчокі,
Як над прытонам :—
Ліхтары.

Разлік дакладны, абсалютны,
Як стрэл вачэй, як кавы глык:
«Прагляд» мінутны,
Бар валютны,
Пасля —
Каньяк,
Пасцель,
Разлік.

І, як заўсёды, будзе ранкам
Лавіць шумок, прагнаўшы сон:

Ці вецер шастае фіранкай,
Ці то даляраў шолах-звон?..

Калі,
звярнуўшы з тлумных вуліц,
Таксі ля дома вуркатне,—
Штораз збалелы твар матулі
Мільгне, як свечка,
У акне.

**ПЕСТУНЫ**

Братамі мне — усе жывыя:
Люблю ласёў, люблю баброў.
Але здаецца, што завыю
Ад гарадскіх сабакароў...
Г. Бураўкін

Здаецца, ім ні да абедаў,
Ні да шыцця,
НІ да пруткоў:
Сабак прагульваюць кабеты,
Нібы са стайні жарабкоў.

Вядуць,
За кожным сочаць рухам,
Каб раптам дог
Ці той бульдог
За пінчэрам —
Бясхвостым зухам —
За сучкай вулічнай
Не ўлёг!

Як ірвануць —
То дай ім рады!
Бо кожны ў сіле,
Не слабак...
І ўсе ў пад'ездзе
Сваркі-звады

Не з-за дзяцей —
З-за іх, сабак.

Пачнуць кляцьбу, як біркі, вешаць
Хоць не паказвайся ў двары;
Сабакі, мусіць,
Меней брэшуць,
Чым людзі —
Іх гаспадары!

Ці ж утрымаешся з гарачкі,
Калі баліць,
Калі шчыміць? —
Сусед аж мрэ,
Каб хвост сабачку
Ці лапу ў ліфце
Прышчаміць!

... Пад перабрэх згаданы плёткі,
Навінкі мод,
Варункі сноў:
Сабак прагульваюць малодкі —
Чацвераногіх пестуноў.

Той з медалём —
Пры ўсім парадзе.
А гэты злы —
Ільва пагляд!
Вагой —
Бычкі,
Што па падрадзе
У дом узяты
На дагляд.

Шнуруюць бойка, без апаскі
Бульдогі,
Выжлы,
Ганчакі.
...А дзеці дзесь
шукаюць ласкі
Ля цёплай бабчынай шчакі.

**МЕЛІЯРАЦЫЯ**
**І ... РЭАНІМАЦЫЯ**

У нашай вёсцы з-за непрадуманай меліярацыі на працягу ўсёй зімы ў калодзежах адсутнічае вада,
якую даводзіцца браць з забруджанай рачулкі Мышанкі.

З допісу у рэдакцыю

С я л ь ч а н і н :

Зямельку люблю,
На ёй змалку за працаю,
Ды коле, як стрэмка, праблема адна,
Бо так разумею я
Ме-лі-я-ра-цыю:
Дзе пройдзе яна —
Там зямельцы хана!
Шкада,
Бо да гэтай «балотнай навукі»
Даходзяць спачатку
Не розум, а рукі:
Рачулкі раўнуем,
Карчуем,
Руйнуем,
А потым —
Бядуем,
Чаруем,
Ратуем.
Патрэбна шукаць, каб адвесці бяду,
Бы ў казцы маленства,
Жывую ваду
І грошы «жывыя»,
Каб зноў ажывіць
Крыніцу, што ў полі
Даўно не бруіць,
Палетак, што ўлетку
Не колас калыша,
А пылам, сасмяглы,
Як рыбіна, дыша.
Не дзіўна, што ў нас
Пасля гэткай асушкі
Не ўбачыш у полі
Ні краскі,
Ні птушкі...
Зімой пакапаліся хлопцы
У нас —
І знікла вада з усіх студняў
Ураз!
Цяпер па ваду мы
З іх «лёгкай» рукі,
Стары ці малы,
А ідзём да ракі...

Н а ч а л ь н і к ПМК:

Ці ж гэта бяда,

Ці ж навала, прыгода?
Ды гэта ж, таварышы,
Нават выгода:
Вада ж у рачулцы
З гатовай «засkваркай» —
Заўсёды з мазутам,
Заўсёды з саляркай.
Згатуеш абед —
Эканомна для страў:
Не трэба закрасы,
Не трэба прыпраў.
Мо толькі духмянасць
Чуць-чуць не такая.
Ды хто ад мазуты
Другой прычакае?
Дзіця пакупаеце —
Дзіва, дый годзе! —
Нібы загарэла дзіця
На прыродзе.
Няўжо за прынуку, скажыце,
На ранку,
Хоць з вёдрамі, праўда,
Сходзіць на Мышанку?
Праходзяць задышка
І солі,
І болі...
Ды гэта ж сцяжынка здароўя,
Не болей!..

А д  а ў т а р а:

Як пройдзе гэткая «меліярацыя»,
Патрэбна ўжо рэанімацыя:
Зямлі, калодзежам і... людзям.
Дакуль жа ў нас
Такое будзе?

## ХТО ЁН, ЗЛОДЗЕЙ?

Рынак сцёбае лазінай:
«Буду я — тарой дабра...»
Ды пусцютка ў магазінах —
Хто іх раптам абабраў?

Хто ён, гэты злодзей лоўкі?
Гола ў крамах
З краю ў край.
Залы — хоць пад спортпляцоўкі
У арэнду аддавай.

Як лістота, тыя грошы —
Сып мяшком, каб рэч купіць
Налятай —
Даюць галёшы!
Заўтра —
Можаш не ўхапіць

Ні кашулі, ні шкарпэтак —
Меней іх, чым пастаноў.
Не хадзілі модна гэтак —
У галёшах без штаноў?..

Стол пусты, нутро пустое —
Колькі мне яшчэ цярпець?
Што са мной:
Хвалу... застою
Пачынаю ціха пець.

## ЦІ ЁСЦЬ ТАЛОНЫ?

Што б ні браў: «Ці ёсць талоны?»
Згубіш іх —
Дык возьме звіх:
Бесталонны —
безсталоўны,
Хто б ні быў ты, —
Нуль без іх!

Цукар,
Масла,
Макароны —
Ёсць талоны?

Цыгарэты,
Змей зялёны —
Ёсць талоны?

Мыла,
Боты,
Панталоны —

Ёсць талоны?
Ёсць талоны?
Ёсць талоны?
Ёсць талоны?..
І гараць, гараць з талонамі
Мільёны.

Ёсць талоны?
Есць талоны?
Ёсць талоны! —
Ды на чэргі,
На знявагі,
На праклёны...

Збудавалі рай хвалёны —
Ні купіць,
Ні даць,
Ні ўзяць.
Можа, хутка па талонах
І... дзяцей пачнём «купляць»

**РОЗДУМ-ПЛАЧ**
**КАЛЯ... ДАЧ**

Шнурую,
Шурую,
Чарую:
«Дзе дошкі, цэмент я знайду?..»
Шчырую,
Мудрую,
Мурую —
Як цэглу, чырвонцы кладу.

Калі буду мець я аддачу?
Ці блізка ўжо клопатаў дно?
Будуючы дачу,
Рашаю задачу,—
Адказу ж у ёй не відно.

Нашу прэйскурант, як задачнік,
Дзе ўмова — з цаною — адна...
Не дачнік-удачнік,
А школьнік-няўдачнік,—
Штодня на нагах ад відна.

Я нервы псую, лямантую —
Уелася дача ў нутро!
За час,
Што будую-бядую,
Мой шэф збудаваў бы метро.

Калегу свайму з будканторы
Адбіў бы званочак-паклон,—
І зрушылі б хорам,
І вырас бы хорам,
Напэўна, за некалькі дзён.

Дый гэта яго не турбуе,
Шаноўнага шэфа майго:
Ён «Волгай» на дачу
І з дачы шыбуе —
Казённая дача ў яго.

Ён часам жартуе, даводзіць:
«Мецъ дачу —
Не плён, а праклён...»
Ды чуткі ўжо ходзяць,
Што шэфа скароцяць,—
Хто выйграе ўсё ж:
Я ці ён?..

Вязу я на соткі расаду,
А ў думках не-не ды мільгне
«Для толку, для ладу
Скароцяць пасаду,
А дачу —
Скароцяць ці не?..»

**КРЫВАЯ... МАТЭМАТЫКА**

Колькі будзе тры на пяць?
Цяжка памыліцца.
Я ж даўмеўся акругляць:
Не пятнаццаць —
Трыццаць.

Я сумленне не цугляў:
Мне было не еорам,
Калі часам акругляў
І вышэй —
На сорак!

Не заплюшчваў я вачэй
На такое «ўменне»,
Бо дзяліць было лягчэй...
У свае кішэні.

Ведаў добра, што раблю,
Быў я «спец»,
Не лапаць.
Ведаў: болей акруглю —
Болей можна ўхапаць!

Хоць чакаў,
Не збыўся цуд:
Па маім парадку
Акругліў мне тэрмін суд —
Даў усю дзесятку!

**А Я НЕ СПЛЮ..**
**(МАНАЛОГ АДНАГО ВАРТАЎНІКА**
**З БУДОЎЛІ)**

Што я, як звон, адгрукаў дачу,—
Сусед пранюхаў, бач, дапяў.
А я ж з-за дачы —
Дня не бачыў,
А я ж з-за дачы —
Год не спаў.

У стружках корпаўся, у гліне,
З будоўлі ў цемень і ў мароз
Цягнуў па дошцы, па цагліне,
А выпадала — возам вёз.

А колькі я стаптаў абутку,
А колькі я пэратрымцеў?!
А ён пусціў па доме чутку:
З чужога я разбагацеў.

Яшчэ прыплёў, каб дацца ў знакі,
Што я скупеча — свет не знаў:
Пашкадаваў купіць сабаку —
Ля брамы цешчу прывязаў!

Што я, як звон, адгрукаў дачу,—
Сусед пранюхаў, бач, дапяў.
А я з-за дачы —
Дня не бачыў,
А я з-за дачы —
Год не спаў.

Хто сам пабыў у скуры гэткай,
Дык чорта нават спамяне:
Мільгне ў акне фуражка зрэдку,
Дык млею: «Мусіць, па мяне?..»

Я стаў нервовы, стаў я псіхам,
Дзяцей папругаю луплю.
Сусед мой спіць, як суслік, ціха,
А я не сплю,
А я не сплю.

**БЭРЫ**

Я помню, бацька вожкамі адперыў,
Калі аднойчы ў сад залез,
          калі
Натрос я груш — яшчэ зялёных бэраў,
Што ў нас раслі, а слуцкімі слылі.

Нарваць зялёных голад падахвоціў...
Каго той бэры смак не спакушаў? —
Сама, здаецца, раставала ў роце,
На сёмым небе чулася душа!

Што райскі сад ёсць, пэўна, кожны верыў
Адно было яе пакаштаваць...
Сады здзічэлі...
Не знайду ў іх бэраў,
А што за смак, даўно ўжо не чуваць.

Ці лёс, ці час — хто мала ім адмераў?
Ніхто не ўчуў журботнага: «Ратуй!»
...Затое знаем, што за смак у «бэраў»,
У тых, што з-пад Чарнобыля, адтуль.

На рынку, у трамваі, у кватэры —
Я зноўку чую, як тады, спярша:
Ва ўсіх на вуснах сёння: «Бэры, бэры...»
Ды ўчуўшы іх,
Уздрыгвае душа.

Не жэўжык нейкі — радыёзладзюгі
І ў сад, і ў дом,
І ў мой залезлі лёс!

...А ці папала неслухам папругі —
Усім, хто «бэраў»
Той вясной натрос?

**ЧЫК-ЧЫРЫК**

Мне журботна: чамусьці на ранку
Пад акном зрэдку чую іх крык —
Гэта роднае, як калыханка:
Чык-чырык,
Чык-чырык,
Чык-чырык!

І яшчэ прыгадалася раптам:
Мне,
　　　　каб спуд у душу пасяліць,
Пагражалі: «Не цвыркай занадта!
Можаш тых, у двары, пацвяліць...»

Папярэджвалі: «Вылезе бокам!..»
Ім хацелася, каб ні шу-шу,
Каб не цвыркаў, а толькі падскокваў,
Вераб'іную меў я душу.

Абяскрылены, слухаў я толькі,
Як чырыкае шэры сусед:
Бесклапотна, гарэзна настолькі,
Што бясхмарным здаваўся сусвет!

Ды няпраўда — згушчаліся хмары,
Неслі чорную ношу сваю:
Нечакана Чарнобыль ударыў
І па мне,
І па ім, верабʼю!

І маўчанне ўзарвалася крыкам —
Крыкам роспачы,
Спудных надзей.
Хто баяўся, і той зачырыкаў:
Мы — часцей,
Верабейкі — радзей...

Пад акном, у смугу захінутым,
Ні шумнуць талакой,
Ні ўзляцяць...
Сумна, горка: няўжо за валюту
У Кітаі іх будзем купляць?

**БЛАТ**

Дзяцінства ўспомню, тыя сцежкі,
Дзе адблукана з пугай шмат,—
І прыгадаецца з усмешкай:
Жыве там сябра —
Мішка Блат.

Хто прычапіў мянушку тую,
Не знаю я па гэты дзень.
Ды бачу зноў,
Як ён сярдуе,
Калі дражнюся праз пляцень:
«Па блату, па блату
Спалілі немцы хату...»

Было — і ён з мяне дражніўся,
Чаго ў дзяцінстве не было?!
Як ён, і я
Да слёз аж біўся,
Як ён, і я
Праз дзень мірыўся —
Сяброўства вернасцю жыло!

Здаралася, за сваркай следам
Хацелі ўсё прывесці ў лад:
І ён пытаў,
І я не ведаў,
Чаму ён — Блат,
Што гэта — блат?

Дзіця вайны, ён рваў вантробы,
Як упрагаўся ў плуг вясной,
Цягаў са мной, такім жа, копы,
Хадзіў бульбянай баразной.

Са мною — асаку з балота
Цягаў ён, вострую, бы нож.
Са мной за статкам лета лётаў,
Да снегу бегаў басанож.

З чужых садоў — сігалі зайцам,
Хоць спеў за хатай свойскі сад...
А рады як былі акрайцу!..
Ты помніш гэта, Мішка Блат?

Бягуць гады, ты ж не па блату
Баранку круціш трыццаць год,
Хаця без блату,
Як без хаты,—
Цяпер ні кроку без яго!

Радкі ж дражнілкі крыўднай, даўняй
Я гэтак сёння перадаў бы:
«Па блату, па блату
Забраў Чарнобыль хату...»

І смех, і сум — усё дарэчы,

Калі ўжо чую: «Дзядзька Блат...»
І я святлею ад сустрэчы:
Быў гэты «блат» —
Ад слова «брат»!

**НАВАЛАЧ,**
**ці**
**РОЗДУМ**
**НА ТЭМУ САМАКРЫТЫКІ**

Не чуць,
Не бачыць —
Што ж такога?
Хіба разлік у гэтым ёсць?
Ды ўсё ж скубе, грызе трывога,
Ды ўсё ж сцінае думкі злосць:

Якім жа трэба нарадзіцца,
Якім жа трэба быць душой,
Каб ад людзей адгарадзіцца
Парканам чэрствасці глухой?
Якім жа трэба нарадзіцца,
Якое сэрца трэба мець,
Каб ад сумлення адступіцца,
Бы ўраз аслепнуць, анямець?

«Ды згінь ты, навалач такая,
Я ж не жыву, як сыч той, сплю!.
Сябе кляну,
Сябе ўпікаю,
Ды ўсё... маўчу,
Ды ўсё... цярплю.

## НА АДЗІН МАТЫЎ —
## ПРА КААПЕРАТЫЎ

Кааператыў за ўсё як след
Бярэцца, і не марна:
Быў надвячоркам
Туалет,
А з ранку ўжо —
Кавярня.

Усім бы ўвішнасці такой —
Хадзілі б каралямі.
Дзе пахла нечысцю, брыдой
Запахла ўраз
Рублямі.

Кааператыў гняздзечка звіў,
Ад нас — не за спіною.
Кааператыў усіх здзівіў,
Але найперш —:
Цаною.

Кааператыў за ўсё як след
Бярэцца — ўсё ён можа:
Ёсць грошы —
Цешчы на той свет
Пайсці хутчэй паможа.
Ёсць грошы —
Ён жа над труной
З табою пагалосіць:
Слязу сатрэ
адной рукой,
Другой —
дадаць папросіць.

Чаму я ўсё пра негатыў,
Бо людзі ж — не святошы?
Чаму ў радках
Адзін матыў —
Пра грошы ўсё,
Пра грошы?

Бо ў справе ўсёй,
Бо ў працы іх
Увішнай і паўсюднай
Матываў іншых,
Не такіх,
Чамусьці мала чутна.

Ці ўсё ідзе ад дабраты?
Ці ў радасць іх з'яўленне?
Ці чулі пра кааператыў
Спагады і сумлення?

**ХТО Я?**

Плечы ў сажань.
Разрад:
Спорт —
Апрычнік верны.
Мой разрад —
Як зарад
Лішні
Рэвальверны.

У кішэні — падрад.
У стале — купюры.
Пад сталом — аўтамат
З ім —
Не шуры-муры!
Колькі куль —
Столькі дзір
Нараблю імгненна!
Хто я сам —
Рэкецір
Ці гандляр сумленны?

У кішэні — падрад.
Спецрахунак маю.
Дзе быў сейф —
Маю склад,
Войска ўжо трымаю.

Гонар мой —
Як мундзір.
Не хаджу без маршаў.
Хто я сам —

Рэкецір,
Ці гандляр,
Ці маршал?

## ЭКСПЕРЫМЕНТ

Крычаць паўсюль: «Патрэбны робаты
Без іх — застой, не той прагрэс...»
А хіба робаты —
Не клопаты?
Бо што ні робат —
Цёмны лес!

Эксперымент у нас праходзіў,
Дык ён, жалезная душа,
Не памагаў мне, толькі шкодзіў:
Уміг адзін
Усё рашаў!

Была праверка ў нас намечана,
Я спадзяваўся — пранясе...
А ён капейчына ў капейчыну
Падбіў ураз рахункі ўсе.
І выдаў гэтакі разлік —
Любы панік бы кіраўнік.

Я не стрымаўся той хвілінаю,
Я па стале штосілы плясь!
А робат, стрэльнуўшы спружынаю,
Раптоўна згас
І вобзем — бразь!

Наш праграміст ледзь не заплакаў,
Бы не страчаў машын-калек:
— А робат вам — не жалязяка,
А робат вам — не чалавек:

Грымець, крычаць
Пры ім няможна,—
Культурна трэба,
Асцярожна!

Я супакоіў праграміста:
— Да д'ябла штучкі ўсе твае.
Ён, бачыш, на руку нячысты —
Скажона лічбы падае...

Крычаць паўсюль: «Патрэбны робаты
Без іх прагрэс не азарыць!..»
А хіба робаты —
Не клопаты:
Ні прыпісаць,
Ні прыгразіць!

Ды ўсё ж скажу перад усімі:
Эксперымент прайшоў на «пяць»,—
Цяпер я знаю, як і з імі
Падчас патрэбна размаўляць.

**ПАСТУХ**

Хоць уцёк ад задух,
Хоць ужо не пастух —
Выканаўчасці дух
Не аслаб,
Не патух!

Хоць я з пугай хадзіў,
Меў яшчэ партбілет,—
Як авечкі,
          блудзіў
За атарай услед.

Каб давер апраўдаць,
Я круціўся вужом:
Не паспеюць сказаць —
Мною зроблена ўжо!

У ражок наўмысля
Гулка,
Звонка
Трубіў.
Аглядзеўся пасля —
Што ж, браткі,
Нарабіў?

Азірнуўшыся,
          крок
Прыпыню, як заўжды,—
Бачу нават здалёк
Тых агрэхаў сляды!

Трэба выжыць умець:
З пугай быць —
Не касіць...
Тая боязь, як меч,
Нада мною вісіць.

Хоць нібыта сівец,
Збіў, стравіў сенажаць
Ані воўны з авец,
Ані мяса
Не ўзяць.

Выканаўчасці дух,
Нораў твой я спасціг...
Што ж цяпер?
Як пастух,
З торбай, можа, пайсці

## ДУЛЯ З МАКАМ

Еш, дурань, бо то з макам!
З народнага

Помню, сэрца раставала:
Не заўсёды, на Дзяды,
Цуд матуля даставала
На святочны стол тады.

У глінянай місцы зграбнай
(Пра талеркі хто ці чуў?!)
Цуд бухмаціўся прывабна,
Рабацініў уваччу.

Кот прасіў вячэраць, мяўкаў —
Не зважалі на ката.
Кожны знаў: аладкі з макам —
Са смакоцця сма-ка-та!

Мак... Ён быў для нас прынадай:
Частаваў не раз дзяцей,
Як улетку спеў наградах
Ён, цыбаты дабрадзей.

...На гарод гляджу квяцісты —
Вабіць вока перастаў.
Мне шкада, бо мак дзяцінства
Раптам ворагам мне стаў!

Забаронены, у скрусе,
Ён, дзяцінства дабрадзей,
З град пайсці ў падполле мусіў
Ад чужых вачэй
Далей.

Гляне з градкі прыхавана —
Больш не выйдзеш на паказ:
Не на дурня-наркамана,
А на мак знайшоўся ўказ!

Занядбаны, жалю варты,
Ён зірне з-за плота ўслед:
«Ці ж я, людцы, вінаваты,
Што ад дурняў
Цесны свет?

Не аддайце на пагібель
(Карані ж мае — з глыбінь!),
Каб чарговым перагібам
Мой трагічны лёс не быў!..»

..Не дзіця, ды рад прысмакам,
Іх адведаў бы, але
Не аладкі — дулю з макам
Бачу сёння
На стале!

## КАРЫТА

Як мне набрацца спрыту,
Як з думкаю скарыцца:
Ён, бач,—
Каля карыта,
А я —
Каля карытца!

Хоць маю ўсё, як быццам,
Але ж... адно чапляе:
Карыта —
Не карытца,
Туды ўсё ж
Больш трапляе!

Тады ўздыхну з палёгкай,
Калі,
круглей ад поўні,
Пачнём абодва рохкаць,
Ды на адным узроўні.

## ЯШЧЭ НЯМА ТАКОГА ?

Па пятачку
У леткі бум,
Як у метро,
На ўзлессі
Кааператыў «Зялёны шум
Бярэ
За птушак песні,
За жменьку ягад
І за грыб,
За водар,
Верас,
Цішу...
Лістоту з дрэў
Распрадалі б,
Ды хто
Дазвол падпіша?

Сцяжынкі
На дарожкі ўміг
Пакрэйзалі б увішна.
Ды як усе абмераць іх?
Шумок не пойдзе лішні?
Не пададуць заяў
Ласі?
Дзікі
Засад не зробяць?..
Найлепш

Па пятачку трасі —
На ўсё, што трэба,
Хопіць!

Закончыць
Свой сюжэт хачу,
Ды бачу насцярогу:
Нашто хлушу,
Нашто крычу —
Яшчэ ж няма такога?!

Няма пакуль,
Ды ёсць разгон:
«З рублём — зямлю пралезу
Да нашых душ
Дабраўся ён,
Куды бліжэй —
Да лесу!

**ПРАПАЖА Ў ЛАЗНІ**
**(з Алеся Жалдака)**

Куды ні глянь — распараныя целы.
Тру даланёю па чале спацелым.
Няма тут ані рангаў, ні чыноў.
Начальства голым ходзіць, без штаноў.
Пазнай — ён чалавек ці бюракрат?
Усе тут роўныя, як брату брат…

Ды раптам — крык!
Забразгалі тазы.
— Што сталася? — лунаюць галасы.
— Не падалі гарачае вады?
— Аварыя?
— Пажар?
— Дымяцца правады?..

З парыльні, з душавой дзесяткі ног
Коўзь-коўзь да раздзявалак, на парог.
Хтось праслізнуўся, ляснуўся аб дол…
Пярэпалах і паніка наўкол…

Клубамі пара ад кабін пустых.
Чаўпуцца ўсе, сапуць на поўны дых.
За дзверы — той,
А гэты — наўздагон…
Ды крык ізноў: — Мяне аграбіў ён!..

У раздзявалцы, бачу, голы тып,
Плюгавы, лысы, як завялы грыб,
Прыліп лістом да вагара-дзядка,
Крычыць, старога цісне да кутка: «
— Гадзіну ў лазні парыўся, пацеў,
А ён мяне тут голага раздзеў!..

— Што за прапажа? — людзі загулі.
— Штаны у вас ці грошы звалаклі?

— Калі б штаны...— той зноў завуркатаў,
Два кілаграмы, шэльма, недадаў!
— Два кілаграмы недадаў? Чаго?
—: Ды накаплення ўласнага майго.
Спачатку важыў — сорак сем было,
Цяпер — няма ж і сорак пяць кіло...
Урваў аж два кіло маіх цялес!..
Я выклічу сюды абэхээс!..
Не пацярплю такога грабяжу,
Я самаму міністру напішу!..
Як блох, налезла махляроў сюды,
І тут крадуць, абважваюць заўжды...
. . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . .. . . . . . . .
Пакуль гразіўся ён дзядка «пад суд аддаць
Штаны і саквояж «пайшлі гуляць»...

# НАШТО БАБЕ АГАРОД?

**ЗАБЫТАЯ СЦЕЖКА**

Мяккай коўдрай пароша сцелецца,
Снег аселяшча ў срэбра прыбраў...
Дзед Мароз і бабуля Мяцеліца
Пратапталі сцяжынку з двара.

Каб суседзі, каб людзі ўсе бачылі —
Ён жывы яшчэ, гэты дом.
Можа, ўнукі на радасць бабчыну
Снегіркамі ўзвіхраць пад акном?

Можа, бразне паштарка засоўкаю —
І дачушка, і меншы сынок
Адзавуцца здалёк паштоўкаю,
Адзавуцца пісьмом здалёк?..

Снег ляціць, з іх нібыта цвеліцца —
Іх сляды, іх сцяжынку затрос...
Уздыхае бабуля Мяцеліца,
Уздыхае дзядуля Мароз.

Столь у доме здаецца падвышанай,
Ды настрой ці падвышаны іх?
Елка ў доме, калядная, пышная,
Елка ў доме, але — на дваіх.

Ноч самоты да вёскі падкралася —
Безгалосая, быццам бы спіць.
Ці ж даўно ў іх малеча збіралася
З вёскі ўсёй — карагод павадзіць?

— Ой, нідзе не дзенецца
Бабка Мяцеліца:
Карагод павядзе,
Дасць арэшкаў калядзе,
Лузанцоў-спарышоў —
Новы год надышоў!

— Хто забыў прышыць кішэні —
Дасць гарбузікаў па жмені.
Хто згубіў усмешку —
Ледзянец дасць —
Снежку!

— Хто застаўся з такам —
Дасць аладку з макам.
Зварыць бабку са снегу •—
Каб пападалі са смеху!
Дасць іголак з ёлкі —
Ўсім няўсмешлівым на зёлкі!..

— Ой, нідзе не дзенецца
Дзед Мароз:
Падзеліцца
Чарадзейнай торбаю,
Шчодраю і добраю —
З вабнымі ранетамі,

Што не з'елі летам мы,
З гожымі «цыганамі», .
Што дражніліся з намі...

— Падстаўляй кішані —
Ёсць у торбе крышані.
Падстаўляйце кашалі —
Ёсць і так,
І ў кісялі!
Бабка варыла —
Торба гаварыла!

— Двор, мяцеліца, занось,
Тупу-туп, калядка!
Пашчыпай, мароз, за нос —
Стане, як аладка!..

Сонца нізенька, ганак слізенькі
Пакаўзнуцца гады на ім.
Залатое вяселле блізенька,—
Ды ці стане яно залатым?

Збочце сцежачкай на аселішча,
У дамок, што ў сумёты ўрос,—
Стрэне ўсмешкай
Бабуля Мяцеліца,
Стрэне ўсмешкай
Дзядуля Мароз.

**МОДНІЦА**

Бабуля Наста,
Дзед Тарас
Цвітуць, хоць пазайздросць ім:
— Унучка, гляньце-тка, да нас
Наведалася ў госці!
Бабуля ўнучку ў дом вядзе,
Трымаючы за ручку.
Блінкоў пад'еўшы,
Неўспадзеў
Бабулі кажа ўнучка:
— Ты, бабка, крыку не рабі,
Бо я даўно з пялёнак,
Ты завушнічкі мне купі
І залаты пярсцёнак.
Ты ж грошай, думаю, збярэш?
Стаць моднай —
Ох як рупіць!
Хутчэй купі,
Бо, як памрэш,—
Хто ж мне тады іх купіць?

Бабуля Наста,
Дзед Тарас
Няўцямна паглядаюць:
Што ёй сказаць на першы раз?
Не ведаюць,
Не знаюць.

Унучку дзед у сад вядзе,
Трымаючы за ручку.
Сарваўшы яблык,
Неўспадзеў
Дзядулю кажа ўнучка:
— Ты ж, дзедка, добры, не скупы?
Каб я была, дзед, рада,—
Мне залаты кулон купі,
Яшчэ купі памаду.
Ты ж грошай, думаю, збярэш?
Стаць моднай —
Ох як рупіць!
Хутчэй купі,
Бо, як памрэш,—
Хто ж мне тады іх купіць?
Бабуля Наста,
Дзед Тарас
Маўчаць, нібы знямелі:
Што ёй сказаць на гэты раз? —
І клопат жа займелі!
...Шкада падчас бабуль, дзядоў,
Шкада, прызнаем шчыра...
А колькі модніцы гадоў?
Я адкажу:
Чатыры!
І ўсё наперадзе яшчэ —
З надзеямі, з гадамі.
А вось па кім дзіця расце —
Падумайце ўжо самі.

## ЛЁКСА Ў ЛЮКСЕ

Туман клубіўся дзень цалюткі,
Замёр, заціх аэрадром.
Сядзець яшчэ не менш, чым суткі,
Адчула Лёкса ўсім нутром.

«Сынок, напэўна, там чакае,
А я бяздомнаю сяджу.
Хіба прытулку пашукаю,
Хіба ў гасцініцу схаджу?..»

Знайшла, зайшла — о божа мілы!
Народу поўны вестыбюль!
Сядзяць дзядзькі, хлапцы паныла,
Кабеты,—
Праўда, не з бабуль.

Відаць, шкада дзяжурнай стала,
Гукнула Лёксу, запытала:
— Сюды, у горад наш, на колькі?
— На ночку гэту, не нашмат...
— Есць месца ў нас,
Ды ў люксе толькі,
Плаціце роўна пяцьдзесят.

Прыціхла сэрца ў беднай Лёксы,
Здаецца, раптам знемагла:
Рублі на нейкія там штроксы

Збірала ўнуку, берагла...
Ні слова Лёкса не сказала —
Вузельчык скрушна развязала...
Калі ж у нумары шыкоўным
Пачаў ёй сніцца першы сон,
Свінцом прарэзлівым раптоўна
Ажыў, заенчыў тэлефон.

«Адкуль званок, ды позні гэткі?»
А ў трубцы голас:— Ай-лю-лю!
Сумуеш?
— Трохі сумна, дзетка...
— О'кэй, чакай — развесялю!

«Ці п'яны ён, ці, можа, хворы?
Ці мо паблытаў з кім кадук?..»
І раптам — крокі ў калідоры,
І раптам — ціхі ў дзверы стук.

Ключом крутнула, крадучыся,—
Стаіць з бутэлькай нейкі зуй.
— Ты вось што, бабка, не тапчыся,
Прыбрала — і дамоў газуй!

— Куды ж так позна? Я ж старая.
Мяне ўсялілі ў гэты кут.
Сумеўся госць,
Вачмі страляе:
— А ўнучка дзе?
— Адна я тут.

Дзяцюк, як блазен, ухмыльнуўся:
— Што за дзівосы, каламуць?
А ўнізе там здурнелі, мусіць,—
Люксы качэргам раздаюць...
У гэты вечар,
Гэту ноч
Не даў ёй люкс
І звесці воч.

Цярпенне ўзяўшы ў абаронцы,
Шаптала Лёкса: «Божа, збаў!..»
А хтосьці ёй званіў бясконца,
Прасіўся ў госці,
Ў госці зваў.

Пад дзверы нехта зноў прыходзіў...
Трасло старую давідна,
Нібы да сына ў самалёце
Ляцела ноч усю яна.
З гасцей вярнуўшыся дадому,
Пачуўшы мужа буркатню,
Сказала Лёкса так старому
За ўсё жыццё упершыню;
— Сварыцца будзеш — развядуся,
Хлапца знайду, табе назло:
Мне ж, корч стары, ад іх у люксе
Ратунку проста не было.

## ДЗЕД ПАПЛЫЎ У РЫБУ...

Дзед паплыў у рыбу —
Юшку сніў штоночы.
Свежай рыбкі хіба
З вас ніхто не хоча?

Выбраў дзед затоку,
Як і сам,
глухую:
«Ой, не будзе толку,
Як не памазгую!
Ой, не будзе ўлову,
Як не пашчырую!..
Юшкай адмысловай
Ці ж здзіўлю старую?..»

Нетаропка, дбала
З лодкі неўпрыкметку,
Як рыбак бывалы,
Дзед закінуў... сетку.

І злавіў ён рыбку —
Не ярша,
Не плотку:
З хвалі чуйнай, зыбкай
Не падняць
У лодку!

Дзед ужо не рады —
Не чакаў такога.
Бачыць —
З рыбнагляду
Мчыць-ляціць падмога!

Дзед зірнуў нявесела,
Сетку ўзяў —
Прыгнула:
На чатыры пенсіі
Рыбка пацягнула!

Што ж была за рыбка?
Можа, залатая?
Хто загадку гэту
Раз-га-да-е?

**ОЙ, «ЖЫГУЛІ»!..**
**(жарт)**

Пяць год пацеў, бы ў пекле нейкім,
І газіроўкі ўсмак не піў:
Збіраў капейку да капейкі —
І ўрэшце «Жыгулі» купіў.

Прыгнаў, навюткія, пад ганак.
Вясёлкай дзіўнай свет заззяў.
Купляў я — думаў, вольным стану,
Ды рукі сам сабе звязаў.

Пайшлі грыбы — і ўжо на ранку
Вясёлы чуцен галасок,
Сусед крычыць:— Заводзь «бляшанку»,
Я напытаў грыбны лясок!

А ў тым ляску сусед з аблёгкаю
Падчэпіць кошык на руку,
Шчаслівы, гойсае, галёкае,
А я — з машынай на грудку.

Пакінь яе ў цішы лясовай —
Патлацік п'яны набрыдзе,
Такое выдрапае слова,
Што не пакажашся нідзе!

Сусед пасля грамульку ўкіне,
А мне, як дурню, падміргне.
Сусед надыхаў
У кабіне,
А ў трубку дыхаць кажуць —
Мне.

Ды гэта што? Бяды ніякай!
Такое я заўжды б трываў.
Я цэлы год сварыўся, яхкаў —
Гараж, нарэшце, атрымаў,

А той гараж — нібы расплата
За лямант мой, за ўсе віжы:
Заўжды выходжу
Нанач з хаты,
Каб ранкам быць у гаражы.

Хаджу цяпер я хмуры-хмуры,
Бо жонка енчыць:— Абармот!
Напэўна, круціш
З Шурай муры,
Злаўлю — адразу ж дам развод

Паслухай, што сусед твой кажа
Ад слоў яго душа баліць.
Ён кажа: «Кінь гуляку, Маша,
Нашто няўважнага любіць!..»

«Задумаў нешта

ці смяецца?..
Чакай, сусед, прыжджэш свайго
І я не дурань жа, здаецца,
Яшчэ пабачым, хто каго!..»

Я зноў жыву, бы ў пекле нейкім
Бо так рашыў,
Бо так зраблю:
Збяру капейку да капейкі —
Суседу «Жыгулі» куплю!

**ЯШЧЭ РАЗ ПРА «МІНІ»...**

Пра стыль,
Пра моду —
Зноў дэбаты,
Хоць быў, здаецца,
Поўны штыль.
Дзяўчо пацвельвае цыбата —
Вярнуўся зноўку
Міні-стыль.

Не дзіўна —
Раптам спатыкнуцца,
Забыць пра высевы маршчын
З-пад «міні»
Сцёгны ўпарта мкнуцца —
Бліжэй
Да позіркаў мужчын.

Не дзіўна —
Ўсцешыцца спадманам:
«Ах, як з душою саўладаць!..
Не дзіўна —
Максі — донжуанам,
Не дзіўна —
Развядзёнам стаць!

Спаднічка
Ветразем напятым,

Здаецца,
Трэсне на клубах:
Дзяўчо пацвельвае цыбата,
Ды ўжо...
Табе не па зубах...

Тупоча,
Бы па даўняй таксе
Камусь
Надзеі раздае...
Спаднічка —
Міні,
Ногі —
Максі.
А розум?
Ён які ў яе?

**РАЗУМНАЕ ЯЙКА**

Гэта выдумка, магчыма,
Дый тым часам не сакрэт —
Яйка... курыцу вучыла,
Ледзь з'явіўшыся на свет:
— Не кудахтала б, чубатка,
Перастала ў крылы біць,
А падумала б спачатку
Пра мяне — каб не разбіць!

Ты ўзяла, як бачу, моду —
Вэрхал з радасці ўзнімаць,
Быццам гэта асалода,
Хоць і яйка,
Ды — раджаць?!

Не ўзнімала б вэрхал-лямант
З гэткай радасці дурной,
А падумала б таксама,
Што далей рабіць са мной!

Бо з патэльняй чорнай, гладкай
Не хачу сяброўства, знай.
На кубло сядай, чубатка,
І наседжвай, не чакай...
І пасля ў гняздзе-зацішку,
Хоць ты згінь,
Не браў спакой:

— Цёмна вельмі,
мулка крышку
Мне у схованцы такой!

Тут ляжаць — аслепну, мабыць,
Без святла, ад цемнаты.
Мне б хутчэй
На сонца трапіць,
Мне ўзляцець бы,
Як і ты!

Што за глум, што за парадкі?
Я не ўцямлю аднаго...

Не даслухала чубатка,
Ў злосці — летам ад яго!

Яйка промнейкі глытала,
Яйку мроіўся палёт.
Баўтуном
Праз тыдзень стала,
Паляцела,
Ды... пад плот!

Гэта выдумка, магчыма.
Я спрачацца не хачу.
Яйка — курыцу вучыла...
Што, дасюль
Ніхто не чуў?

**ДЗЕ Б НАЧАЛЬНІКА ЗНАЙСЦІ?..**

Шмат жаданняў у жыцці,
А ў мяне —
Не многа:
Дзе б начальніка знайсці,
Норавам, як я,
Такога?
Я ж характарам — уга!
Залаты хлапчына.
Не са мной нуда, туга —
Кайстра жартаў
За плячыма!
Я — і гэта не сакрэт,
Не хвальба, зазнайства,—
Менш сасмычыў цыгарэт,
Чым змяніў ужо
Начальства.
Я футбол, хакей люблю —
Насвістаўся ўволю!
А начальнікаў цярплю —
Пешкі ў гэтым,
і не болей!
Я ў піўную зачасціў,
Каля крам блукаю:
Дзе ж начальніка знайсці
Гэткага ж, як я?..
Шукаю...

## АДКУЛЬ ЖА ГЭТАКІЯ ЖОНКІ?
(жарт)

Не ведаю, як там каго,
Мяне ж (радкі за сведку)
Не першы дзень,
Не першы год
На роздум цягне гэткі:
Калі жаніўся,
Дык была
Яна, як ружачка, ўсё роўна.
Куды ж цяпер
Краса сплыла?
Куды ўсё дзелася раптоўна?

Дзе шчок смуга, прычоска дзе?
Штодня — пялёнкі, распашонкі.
Дзяўчаты пекненькія ўсе,
Адкуль жа гэтакія жонкі?

Сукенку з крамы прынясе —
Дальбог улезла б
Дзесяць тонкіх!
Дзяўчаты зграбненькія ўсе,
Адкуль жа гэтакія жонкі?

Прыйду ў дванаццаць, а не ў сем
Падсыпле шчодра,
Як з салонкі.
Дзяўчаты ласкавыя ўсе,
Адкуль жа гэтакія жонкі?

Зірну на іншую ў тузе —
Як бач, не абмінуць «гамонкі»
Дзяўчаты злагадныя ўсе,
Адкуль жа гэтакія жонкі?

Што з жонкай стала? —
Пакрысе
Згубіўся смех,
Вясёлы, звонкі.
Дзяўчаты ўсмешлівыя ўсе,
Адкуль жа гэтакія жонкі?

Не ведаю, як там каго,
Мяне ж (радкі за сведку)
Не першы дзень,
Не першы год
На роздум цягне гэткі:
А мо і жонка дзень пры дні
Маркоціцца,
Як варыць, мые:
«Хлапцы ўсе слаўныя, зірні,—
Адкуль жа ў нас мужы такія?

**ПЛЯТКАРКІ**
**( з Алеся Жалдака)**

— Я чула, новую табе
Далі нядаўна хату?

— На новым месцы не ў журбе,
Жыву я ніштавата.
Кватэра — цуд:
Прастору шмат,
Спакой і ўноч і рана,
І вокны на зялёны сад,
Ды ёсць адна загана:
Пляткарка Хвеська —
Чорт наслаў!—
Суседзіцца са мною.
Што б ні падумаў,
Ні сказаў,—
Пачуе за сцяною!

Ці я на мужа псіхану,
Ці ён мяне палае,
Хоць стаў падвойную сцяну,—
Усё, вужака, знае!
Калі ж учора малатком
Карціну прыбівала,
Дык ледзьве ведзьме той цвіком
У вуха не папала!

Як жыць далей?
І што рашыць? —
Хапае крыку-енку...
— А можа б, кумка, заглушыць
Кілімам тую сценку?

— Ды я ўжо думала, кума,
Але перабядую:
Ты ж знаеш, я тады сама
Нічога не пачую.

## ПРЫЛАЎКІ... СА ШКЛА

Ля крамы
Пачуў я размову бабуль.
Адна ў аднае пытаюцца:
— Чаму гэта ўсе прадаўшчыцы
Адсюль —
І дня не міне —
Разбягаюцца?

— А ты прыжылася б,
А ты б не ўцякла?
Не бачыла хіба,
Не знаеш? —
Ды тут парабілі прылаўкі
Са шкла,—
Як,
Што
Пад такімі схаваеш?

## КУМАВА КАТАННЕ
## ( з Пятра Бабра)

З базару, з горада аднойчы вёз Пахом
На матацыкле кумачку Параску.
Ён сам сядзеў паважна за рулём,
Куме ж сказаў:
— Сядай, кума, ў каляску.

Пракоцімся, ды з вецярочкам, знай,
Ты гэтак не каталася ні разу!
А калі што, дык ты мяне гукай,—
Парадзіў кум і даў, як кажуць, газу!

Раве шалёна, дрынкае, вішчыць,
Мчыць драндулет разгоністым праспектам.
Аж зірк — Пахому штось кума крычыць,
А ён:
— Чакай, стаіць аўтаінспектар!

От выехаў за горад матацыкл.
Сказаць Параска нешта куму хоча,
А ён махнуў рукою:
— Кумка, цыц,
Дай святлафор спакойна я праскочу!

Праскочылі... Палі ад краю ў край,
Як птушка, матацыкл ляціць, імчыцца!
Кума крычыць, а кум ёй:

— Пачакай,
Чыгунка блізка ўжо, не запыніцца б!

Праехалі... Імчацца ўжо сялом,
За матацыклам — пыл і градам гравій.
Кума штось лямантуе, а Пахом:
— Ты патрывай, дзесь тут масток дзіравы!

Ізноў разлёгся стэп ад краю ў край,
Кума за крыссе шарпае Пахома.
Пахом жа суцяшае:
— Патрывай,
Тут блізка ўжо, усё раскажаш дома.

Ля хаты, бледная, нібыта палатно,
Параска — гэп!
І на пляцень аблегла:
— Мы... мы... згубілі... ад каляскі дно,
І я аж з горада... самога.... бегла...

**БЛІННЫ КАРОЛЬ**

Я, браткі мае, жаніцца
І хацеў, і не хацеў.
Але ў цешчы прычасціцца
Давялося неўспадзеў.

А яна бліноў на ранку
Мне падсунула з гару.
Каля іх, каля мачанкі
Ўпрэю, думаў я, згару!

А пасля, на развітанне,
Намякнула мне яшчэ,
Што бліны, маўляў, шторання
Па такой гары пячэ.

Як жа мне было ўстрымацца,
Не хадзіць на той парог?
Цешчы гэткай адцурацца
Толькі, мусіць, дурань мог!

Свой цяпер я ў гэтай хаце —
Парадніўся веснім днём.
Стаў я ў цешчы любым зяцем,
Блінным стаў я каралём.

Малаком іх запіваю,
Запіваю — напяваю:

— Ой, бліны, ой, дранікі,
Дранікі-смятаннікі:
Варта мне на іх налегчы —
Не нагнуцца,
Не пабегчы!

— Ой, мае грачанікі,
Ой, бліны-мачаннікі:
Схопіш нават на хаду —
Цягне суткі на ваду!

— Ой, блінкі ды ячныя,
Пульхныя, гарачыя:
Як стажок з ахвоткі ўмелеш —
Сам, як блін той, пакруглееш!..

Не да жоначкі, браткі, мне,
З цешчай бачуся адно:
Цэлы стог
Бліноў падкіне,
Сяду — жонкі не відно!

І сказала жонка ўчора,
Ганя сціплая мая:
— На развод падам я скора,
Выбірай:
Бліны ці я?

Падгарэлым, чую, пахне,
Ды які мне выбраць ход:
Ці застацца пры блінах мне,
Ці згадзіцца на развод?..

На бліны гляджу ахвоча,
Ды трываю,
Ды цярплю…
Хто блінкоў адведаць хоча
Калі ласка,—
Уступлю!

Ой, бліны,
Блінкі,
Бліночкі!..

## КЛАПАТЛІВАЯ ЦЕШЧА

Цешча зяця шанавала —
Хіба ж гэта мала?
Цешча зяця шкадавала —
Рэдка ў госці звала.

Добра ведала прыходы
Зяця дарагога:
Як глыне чаго — заўсёды
Вузкая дарога.

Пасядзець бы каля зяця
Ды пачаць гаворку,—
Цешча ж бегае па хаце,
Па глухім задворку,

Бо не знае, што рабіць,
Дзець куды свой смутак,
Куды зяця пасадзіць
І...на колькі сутак?

## ТРЭНІРОЎКА

Таварыш пры сустрэчы
Заўжды мяне даймаў:
— Ты маеш рост і плечы,
А мускулаў няма.

— Канторская работа.
Сам знаеш —
Не каваль...
— Калі б была ахвота,—
Былі б цвярдзей,
чым сталь.

Ты менш ляжы ў пасцелі,
Раней заўжды ўставай,
Купі сабе гантэлі
І ранкам падымай.

— Куплю, куплю, вядома,
З табою ж падбяру.
Адразу, як з раддома
Я жонку забяру...

Прывёз дамоў малога.
Сыночак не маўчыць,
Пабудзіць нежывога
І ўранку і ўначы.

Турбот па горла ў жонкі:
Да самага цямна
Парадкуе пялёнкі —
І ўсё адна, адна...

І я нагрузкі маю,
Хоць часам ім не рад,—
Каляску ўсё штурхаю
То ўперад, то назад.

Зажыў нарэшце лепей,
Хоць страчаны спакой,
А мускулы акрэплі,
І пасвятлеў пакой.

Не адчуваю стомы
Ранейшай у руках,
Калі да самай столі
Я гушкаю сынка...

Бацькі,
Вы падтрымайце
Такое адкрыццё:
Гантэлі
Не купляйце,
«Купіце» лепш...
Дзіцё.

**УСЁ ЯСНА...**
**(з Паўла Глазавога)**

Нечаканая хвароба
нейк прыстала да Лукі:
Паявіліся аднекуль
    на лапатках бугаркі.
Да бальніцы мчыцца хворы.
    Перад доктарам хутчэй
Скінуў похапкам кашулю
    з разгарачаных плячэй.
Сеў, узрушана пытае,
    хоць і быў негаваркі:
— Скуль, скажыце, узяліся
    на лапатках бугаркі?
Глянуў доктар недаўменна —
    што за дзіва-навіна?
— Вы п'яце?
    — Не піў ніколі
    ні гарэлкі, ні віна.
— Часта курыце?
    — Ніколі і не нюхаў цыгарэт.
— А з жанкамі як?
    — Ну што вы?
    Не хаджу я да кабет.
— Ясна ўсё,— прамовіў доктар.—
    Лекі рады не дадуць:
Гэта ў вас, нібы ў анёла,
    мусіць, крылы ўжо растуць.

**СЕКСА**

Кожны раз, як толькі вечар
Да падворка падступаў,
Дзед Пахом, угнуўшы плечы,
Да экрана прыкіпаў.

Сёння ж тупае паблізу,
Чмыхае, бы студзіць чай:
— Баба, гэты цілівізар
Хоць ты зараз не ўключай.

Кожны дзень чаўпуць, такуюць,
Аж слюняк у іх цячэ,
Пра яроціку якуюсь,
Ды пра нейкі секс яшчэ.

Трэба розум раскірэчыць,
Каб дапяць, каб зразумець,
Бо на мове чалавечай
Нават пець не ўмеюць,
П-е-ець!

Не паверу, што секс — бомба:
Не такі ўжо свет пайшоў,
Каб крычаць аб ёй з апломбам,
Трэсці бомбай над душой!

Можа, секс — аўтасякера,
Што патрэбна ў дом якраз?
Там прыдумаюць, халера,
Там — умеюць,
Там — не ў нас!

Можа, секс — цыгаркі тыя,
Што з-за мора шлюць паны?
Раз бяром за залатыя,
Мусіць, ім няма цаны.

Я не цямлю ў цыгарэтах,
Мне махорку лепш падай.
Баба, ты пра сексу гэту
Лепш мо ўнучку распытай...

А назаўтра, калі зноўку
Ля экрана дзед гарбеў,
Баба, грукнуўшы засоўкай,
Загадала нараспеў:
— Лезь у ложак, пень трухлявы,
Ды на ногі ўскінь кажух:
Што за дзіва ды забава
Гэты секс,—
Я пакажу!

Потым — коўзь пад коўдру голай
Дзед жа ў крык:— Вылазь, чума!
Давядзеш да карвалолу,
А яго нідзе няма!

## НОВАЯ ПАРА — ДЗЕД І ТАМАРА
**(з Міколы Дзмітрыева)**

Падышла да загса пара —
Дзед Мяфодзій і Тамара.
Дзед сагнуўся ў тры дугі,
А малодка: «Гі-гі-гі!»
Ля стала, у цэнтры зала,
Сакратарка ім сказала:
— Не магу я распісаць,
Трэба месяц пачакаць...
Твар змяніўся у Тамары,
Пабялела — не пазнаць:
— Гэта ж горш нябеснай кары,
Месяц нудзіцца, чакаць!..
Праўда, мне чакаць — не ноша.
Але ж глянце на Мяфошу:
Ён жа добра стараваты,
Да таго ж і глухаваты,
Ён за месяц, мая люба,
Бачыш, можа ўрэзаць дуба!
А загнецца —
Мігам страчу
Ашчадкніжку, «Волгу», дачу!..

— Не хвалюйся: твой Мяфод
Пражыве яшчэ сто год.
Знаю гэта, бо не раз
Дзед бываў у загсе ў нас.
Жонак трох ці чатырох
Пераржыць старэча змог.

Ты ўжо, мусіць, пятай будзеш.
Так што,—
Бачаць гэта людзі,—
Невядома, мая люба,
Хто хутчэй урэжа дуба!

## ЗА АДНУ ЗАРПЛАТУ...
**(з народнага)**

Тры кабеты, стаўшы купкай
Ля дарогі пад вярбой,
Як галубкі,
Пра пакупкі
Буркавалі між сабой.

— Ой, напэўна, перад святам
Муж мяне здзівіць хацеў:
За адну сваю зарплату
З ног да галавы
Адзеў!

— Ой, Маруся, праўда гэта?
І ні капкі не прапіў?
Што, прызнайся па сакрэту,
Ён, твой муж,
Табе купіў?

Вочы бліснулі ў малодкі,
На шчаку ўсю — чырванец:
— А ён мне купіў калготкі,
А таксама — грабянец!

## МАЛЫ
**(з народнага)**

Дзень гарачы.
На таку
Збожжа горы дыбяцца.
Хлопец,
Стоячы ўбаку,
Не працуе —
Дзівіцца.

Хто там быў,
Крычаць яму
(Языкі ж дасужыя!):
— Не працуеш, брат, чаму?
— Бо малы, нядужы я.

— А чаму, скажы, штаны
На табе куртатыя?
— А не знаю, бо яны
Не мае, а... татавы.

## УЖО ЁСЦЬ...

Гэта цуд быў, а не лялька,
Цуд, на радасць не скупы.
Як прыліпла да прылаўка
Лёля:
— Татка, мне купі!

Прадаўшчыца ў куртцы гожай
Пачала тавар хваліць:
— Гэта лялька плакаць можа,
І крычаць,
І... нават піць!

Схамянулася малая:
— Не хачу такой, о не!—
Я ж сястру такую ж маю...
Проста ляльку
Дайце мне.

## КУРОРТНЫ КОТ

У Васілька — курортнагаката,
Здаецца, не жыццё, а любата.

Як загаральшчык той, заплюшчыў вочы
Б'е сонца ў зрэнкі,
Ветрык хіб скубе.
А ў жываце нібы прыбой ракоча —
Ні малака, ні костачкі табе!

Зліняла, спрэс — у лапінках футэрка,
Хоць з ім, здаецца, поўны быў ажур.
Калі ён еў са сподка ці з талеркі?
Не ўспомніш, колькі воч старых не жмур

Ды хто пра гэта ў Васілька спытае?
Шнуруюць пары — з пляжа ды на пляж.
Хто лусту кіне, хто паспагадае?..
Праходзяць міма, хоць пад ногі ляж!

На лаўку сядуць, позірк кінуць зрэдку,
Яго убачыўшы, ад лаўкі — прэч!
А можа, сорам — ён жа першы сведка
Іх пацалункаў тайных і сустрэч!

Вясёлы смех... Здаволеныя твары...
Як лісця, шэпт і ўздыхі штоначы...
Відаць, галодны сытым — не таварыш:

Марцоўка сніцца ім,
Яму ж — харчы...
З кустоў калючых вылезе на сцежку,
Не-не, ды ў думках мільгане тайком:
«І хто з людзей ну быццам у насмешку
Назваў мяне пяшчотна Васільком?..»

У Васілька — курортнага ката —
На старасці
Ні хлеба,
Ні кута

**СТРАТЭГІЯ**
**(з народнага)**

Загрымеў усохлы ганак,
Хтось «Дзень добры!» ў хату даў
Да Лявона нечакана
Кум у госці завітаў.

Госць у хаце —
Гэта ж свята
І ў душы, і на стале...
Дастае абрус Агата,
Строі з куфра дастае.

Як вядзецца,
Да кубельца
Заспяшалася у склеп.
Загалёкалі відэльцы,
На абрус улёгся хлеб.

За бутэлькай —
З шафы чаркі
Перабраліся на стол.
Усчала яечня сварку —
Ля патэльні хоць не стой!

А пасля — цякла бяседа,
Дагаджалі ёй усе.
За яечняй —

Чаркі следам
Апусцелі пакрысе.
Нечакана гаспадыня
Песню ў хаце завяла,
А Лявон па той хвіліне —
Ш-шух за дзверы
З-за стала!

Госць сканфужаны,
здзіўлёны,
Пачакаў — ды ўслед за ім...
Гаспадар сядзеў пад клёнам
І пускаў з цыгаркі дым.

— Што, у вас разлад з Агатай?
Не магу я зразумець:
Ты чаму ўцякаеш з хаты,
Як пачне кабета пець?

І Лявон прызнаўся куму:
— Цягу я на двор даю,
Каб ніхто не мог падумаць,
Што я ў хаце жонку б'ю.

**ПАСТАРАЎСЯ...**

Уздыхае цешча ў скрусе:
— Чую блізенька бяду.
Скора я памру ўжо, мусіць,
У зямельку адыду.

Ты б дамовіўся, зяцёчак,
Каб на могілках у нас
Лепшы мне знайшлі куточак...
Пастарайся ўжо
Хоць раз!
Зяць старую супакоіў:
— Знаю, з кім пагаварыць.
Месца знойдзецца такое,
Толькі трэба магарыч.

— О, зяцёк, на клопат гэты
Можаш нават сотню ўзяць!
...Ноччу, добра падагрэты,
Прыблукаў з задания зяць.

— Дзе быў, з кім піў —
Не пытайся.
Пастараўся —
Млосна аж!
Ты ж на пятніцу збірайся:
Месца выбіў —
Сам хоць ляж!

**ЧУБ**

Ці я ў скокі хадзіў, ці ўвіхаўся з касою,
Тросся чуб нада мной кронай пышнай,
густою.
Быў чуб
Дзеўкам люб,
Як успамінаю.
Быў чуб —
Вохкаў клуб!
Дзе цяпер —
Не знаю.
Як з дзяўчынай стаяў пад акном
неаднойчы,
Ён святло затуляў, чуб, чарнейшы ад ночы.
Быў чуб,
Быў шлюб,
Як успамінаю.
Быў чуб
Жонцы люб,
Дзе цяпер —
Не знаю.
Развітаўся пасля з вечарынкамі, з клубам,
З маладосцю сваёй, ды не з чубам
найлюбым.
Быў чуб
Дзеткам люб,
А яшчэ... суседцы:
Тыя — скуб!
Гэта — скуб!—
Дзе ж ён мог
Падзецца?
Ой, гады, хто вас гнаў, рысакоў
нецугляных?
Там, дзе чуб лесавеў,— лысавее паляна.
Чуб-гай
Адшумеў,
Я ж успамінаю:
Галаву, помню, меў,
Чуб ці меў —
Не знаю!

**КАМАР НА МАТАЦЫКЛЕ**

Не ўсе яшчэ прывыклі,
Такога ж не было:
Камар на матацыкле
Прастуе праз сяло!

Ляціць у цёмны вечар,
Распырскваючы гразь.
Пішчыць камар:
— Знявечу!
Пад колы не падлазь!

На зуху — шлем глыбокі
І куртка «Адзідас».
— Я не камар-р-р,
Я — р-окер-р-р!—
Звініць,
Хоць позні час.

Трашчыць матор, страляе,
Віскочуць тармазы...
Не спіць ніхто — гуляе
Камар: зум-зы, зум-зы!

І — уляцеў у пастку,
Як гнаў, бы на пажар.
Лясь!
Драндулет — на часткі,
А сам камар —
Да хмар!

Крыло зламаў з наскоку
І нос — адно прысніць...
Прыслухайцеся. ў змроку
Ці то не ён, той «рокер»,
Так жаласна звініць?

**СЛІМАК ФІЛОСАФ**
**(замест байкі)**

Гляджу — нібыта кладку,
Каб чулася сушэй,
Ён цягне, дягне хатку
Да лужыны бліжэй.

За сцежкай луг застаўся —
Звініць,
Гудзе,
Трашчыць...
— Чаму сюды падаўся?
У сітнягу спачыць?

— Адтуль чаму ўцякаю? -
Каб не нажыць бяды.
Люблю, як хатка —
З краю,
Ды і са мной заўжды.

Утульна мне ўсё лета,
А сырасць — па душы.
І я, і хатка гэта —
Нібыта спарышы.

А там — спяваюць, граюць,
Паўзуць,
Бягуць,
Ляцяць...
А конікі сягаюць —
І ў сне мне не дапяць!

Ім, бачыш, спёка ў радасць,
Мне ж даспадобы глей:
Ад мітусні,
Ад звадак,
Ад выскачак —
Далей!

Хоць высушыць самота,
Ды ўсё ж параду дам:
Лепш дыхаць тут
балотам,
Чым медуніцай — там!

## ЦІ ЛАПУХІ ЛОПУХІ ?

Адным —па штату градку дай,
Другім, вышэйшым,—
Клін шырэйшы.
Яму ж — і за хлявамі рай,
Яму ж — падай куток глушэйшы.

Сядзіць, лісцём не варухне.
Яго, хутчэй, відаць, ад скрухі,^-
З-за плота
Крапіва стрыгне:
«Аб чым ты марыш, лапавухі?..»

А ён да ўсіх зняваг глухі,
Бярэ сваё лісцём і ростам,
Бо лопухі —
Не лапухі:
Растуць, дзе харчу ім
Удосталь!

## АПОШНІ БІЛЕТ

Іван Кузьміч у час гастроляў —
Славуты прыязджаў балет —
Упёк паўдня,
Ды толькі здолеў
Адзін, апошні ўзяць білет.

Угрэўшыся ў чарзе на сонцы,
Змакрэў ён, як пасля дажджу.
— Схадзі,— панура буркнуў
жонцы,
А я ўжо дома пасяджу.

І тая радаснаю птушкай
Да ўбораў пырхнула ў пакой.
— Які ты добранькі, Ванюшка!
Дай пацалую, голуб мой!..

— Што чула-бачыла ў тэатры? —
Сабраўшы чарцяжы свае,
Ужо за снеданнем, назаўтра,
Муж пацікавіўся ў яе.

— Ой, многа!.. Дома не пачуеш
Таго, што там пачула я...
Знаў Сцёпку? —
Дома не начуе.
Дажыўся: выперла сям'я!

А Лідку знаў? —
Дык развялася,
Дацэнта нейкага знайшла.
Ён год такіх, як дзядзя Вася…
Дзе галава яе была?

А Зюньку помніш? —
Жыў пад намі,
Нібы вяпрук, здаровы быў,—
Са склада з грукатам прагналі,
Бо многа краў і многа піў...

І тут Іван Кузьміч зазначыў:
— Лепш адкажы, дзе твой білет?
Як зразумеў, як я ўжо бачу,—
Ты не папала на балет!

— Не бойся, на балет папала.
Ох, як я рада, голуб мой!
Я ж там сяброўку напаткала,
Што ў нас была ў гасцях зімой.

З ёй па фае пустым хадзілі,
Ляцеў, бы znічка тая, час.
Пакуль пра ўсё пагаварылі,
Спектакль закончыўся без нас.

## АДКУЛЬ ЗЛО?

## «КРАКАДЗІЛ»

Было ўсё так: чакаў сяброў я —
Праформ сустрэўся мне ў двары.
— У трупу гэтую… здароўя
Абанеменцік ёсць, бяры.

Куды ён хіліць — добра знаю.
Усё я скеміў на хаду:
З сябрамі часта «заліваю»,
А ў трупе — можа, адыду.

Ну, а праформ мне ўсё вуркоча,
Нібы які сваяк, радня:
— Займацца ў групе шмат ахвочых,
Басейн працуе там штодня.

Хто там здароўя набіраўся,
Казалі — цуд,
Казалі — рай:
Крыху пад музыку размяўся
І — у ваду гарцуй, ныраў!..

Каб не забыць ранейшай хваткі,—
Настрою прагнула душа,—
Прыйшоў я ў групу на заняткі,
Хапіўшы добрага «ярша».

І ўбачыў я: дзядзькі, кабеты,
Хто маладзейшы, хто ў гадах,—
Такія робяць «піруэты»,
Глядзець на іх —
І смех, і страх!

А трэнер, зграбная такая
І, мабыць, вёрткая змяя,
Каманды гучна вымаўляе
Пад голас музыкі здаля.

Крычыць: — Зрабіце «чарапаху»
Усе — кулдык!..
Ну цырк адзін!..
Я ж ніцма лёг, нібы на плаху,
Замёр між іх, як кракадзіл.

Цікую: што далей заварыш?
Чыесьці ж пяткі — проста ў нос.
І раптам чую шэпт: — Таварыш,
Які віхор сюды занёс?

Прашу: сумленне трошкі майце
Вы ж не у піўной, на дыване.
Прашу: дыханне затрымайце —
Пячэ у пяткі дужа мне!

Суседка штучкі выраблява —
Іх перадаць я не магу.
Ды раптам — нібы не стаяла:

На месцы — плясь,
І ні гу-гу!

Народ знямеў, ды спахапіўся,
Загаманіў: «Вады ёй! Піць!..»
Прыбег урач, над ёй схіліўся,
Пасля: «Цішэй! Жанчына спіць!..»

Над ёй, над каляжанкай нашай,
Кабеты збіліся ў гурму.
А я стаю, дыханне сцяўшы:
Заснула,
Ведаю — чаму.

Кажу адной: «Ды хопіць вохкаць,
Яшчэ наклічаце бяду.
Каб на цябе дыхнуў я злёгку —
І ты заснула б на хаду...»

А цётка ў лямант: «Хуліганства!
Ды ён жа п'яны, шалапут!
Няўжо ад іх, казлоў, ад п'янства
Не прадыхнуць і ў нас, і тут?..»

У раздзявальню я вярнуўся —
Сусед папаўся гаваркі:
«Ты навічок у трупе, мусіць,
Стаміўся — гойдае ў бакі...»

А сам стаіць дзябёлы, свежы,
Нібы капу гадоў згубіў.
Я ж — коўзь бутэльку «Белай вежы»,
Што па дарозе прыхапіў.

— Дык, можа, ляпнем за здароўе
І за сустрэчу заадно?

А ён глядзіць, глядзіць з-пад броўя:
«Забі пярун, каб меў сяброў я,
Такіх, што лыкаюць віно!..»

На ганак выйшаў — сыпле дожджык.
Запеў я з гэтакай нуды.
Да ганка раптам — шусь фургончык,
Такі з палоскай...
— Вам сюды!..

Пабыў я ў групе роўна вечар:
Нашто псаваць залішне кроў?
Ці ж там парадак чалавечы? —
Ні заспяваць, ні «будзь здароў!».

І абыходзяцца ж заняткі,
Бы ў рэстаране тым банкет:
Аддай за вечар паўзарплаткі
І прэміяльныя — услед!

## АДКУЛЬ ЗЛО ?

Пятрок Хвядоса надвячоркам
У дом зазваў:
— Нам трэба ўстрэс!
Па дзве ўзялі...
Пайшла гаворка...
Ды зноў Пятрок
У бар палез:
— Яшчэ кульнём па трэцяй, можа
Хіба зашкодзіць
Лішні глык?
Бо нават сам шаноўны божа,
Як чуў ты,
Любіць гэты лік!

— Не, браце мой, пайду дадому,
Каб не наклікаць
Раптам зла:
Бог любіць тройцу, як вядома,
А жонка —
У яго была?

## БЫЎ ХАЎРУС...

Прыгадаю часам ноччу:
Быў хаўрус, адна сям'я.
Сёння —
Кум «налева» збочваў,
А назаўтра збочваў — я.
Так мы чаргаваліся,
Так мы харчаваліся.

Быў «прывоз» малы й вялікі.
Звычка ў нас была свая:
Сёння —
Кум на чарку клікаў,
А назаўтра клікаў — я.
Так мы чаргаваліся.
Так мы чаркаьзліся.

Хоць начальства аўтабазы
Нас любіла паўшчуваць,—
Не падумалі ні разу
Мы з хаўрусам парываць.
Ды бяда ўчынілася,
Ды бяда звалілася.

Кум пад чаркай «пасваволіў»
Сеў за руль...
Падбіў дваіх...
А мяне дагнала ў полі

(«Левы» рэйс рабіў) ДАІ.

Скончылася справаю
І падсуднай лаваю.

Так адчаргаваліся,
Так адчаркаваліся.

## ХІМІК БЕЗ ДЫПЛОМА

Як толькі горад засынае,
Я пачынаю «чараваць».
Дыплома хіміка не маю,
І мне яго не атрымаць.

Ды маю я апаратуру,
«Лабараторыю» сваю:
Па дзесяць пляшак «дзінатуру»
За ноч, бывае, выдаю.

Прадукт смярдзючы і пякучы —
Мазгам аж цесна ў галаве!
Ды хто ўсё ў хіміі
пахучым,
Прыемным дужаназаве?

Вучоным, праўда, лепей крышку,
Жывуць, бы ў бога за спіной:
Адкрыцці робяць, пішуць кніжкі,
Не б'юцца ў чэргах ля піўной.

Ім слава, прэміі, вядомасць,
Мяне ж грызе штодзень сям'я.
Няхай я хімік без дыплома,
Ды ўсё ж у сэрцы — хімік я!

Я свой разгон, абсяг свой маю,

Сваіх «сяброў», сваіх «гасцей»:
І я дзень хіміка спраўляю,
На кожным тыдні,
І часцей.

Лаўлю я шолахі штоночы:
«Мо хто прачуў, мо хто данёс?..
Ад «чараў» жа —
Мутнеюць вочы,
Ад «чараў» жа —
Стаў шызым нос.

**ДЗЕ ТЫ, ГАЛАВА ?**

Меў пасаду, кіраваў —
Быў, казалі, га-ла-ва!
У палучку — жонка й тая
Падпявала:
— За-ла-т-тая!..
Потым гэта галава
Да буфета павяла.
Браў па сто,
Пасля — па дзвесце:
І зляцеў з пасады,
З месца.
Да буфета павяло —
Галавы як не было!
Вольным я цяпер блукаю,
Галаву сваю шукаю:
— Дзе хадзіў я, дзе я піў?
Дзе, праклятую, згубіў?
А шукаючы галоўку,
Зноў прыходжу у сталоўку
Да знаёмага буфета...
— Га-ла-ва, ну, дзе ты,
Дзе ты?

## ПЛЯШНІКІ

Зноў хараством мясцін сваіх
Сустрэла нас прырода.
Што ж прывяло на Вячу іх?
Якая ў іх нагода?

Бітком набіты рукзакі —
Кішэні ўсе, загашнікі.
Пад плёскат хвалі шапаткі
Гудуць на пляжы
Пляшнікі.

— Хто будзе ў нас за тамаду?
— Хто першы тост нам скажа?
— Хто першы дасць нырца ў ваду
— Хто не засне, не зляжа?..

Скубуць зубамі шашлыкі,
Бы ў фільмах — нашы продкі...
Як чарку выпусціць з рукі? —
Яшчэ засмягнуць глоткі!

— Куляй да дна! — чуваць адно.
Смяюцца пераможна...
З такой адвагай — і на дно
Схавацца, булькнуць можна!..

Як вытрас нехта рукзакі —
Кішэні ўсе, загашнікі.
Пад плёскат хвалі шапаткі
На пляжы дрэмлюць
Пляшнікі.

За чаркай спіны, жываты,
Як той шашлык, падсмажылі
Былі ж на пляжы, ля вады,
Дзе выхадны свой...
Спляжылі!

**АНТОН АНТОНАЎКІ ЛЮБІЎ...**

Антон антонаўкі любіў,
Але — не садавінай:
Ён ціснуў сок, віно рабіў,
Быў «спец» па справе віннай.

Раз бутлю з дачы прыцягнуў,
Без груку, без гамонкі
Яе ў камору запіхнуў —
Далей ад вока жонкі.

Схаваў ён бутлю у куток:
«Няхай там дрожджы бродзяць,
Бо лішні градус, лішні клёк
Пітву, напэўна ж, не пашкодзяць..

Але не вытрымала шкло
Бунтоўнай сілы з часам —
Віно пабегла, пацякло
На волю самапасам!

Ці ж гэта бачыць мог Антон —
І бунт віна, і ўцёкі?
Яму салодкі сніўся сон —
Цадзілі хмель аблокі!

Ды неспадзеўна ранічкой
Сусед прыскочыў знізу.
Як выжал злы.
Перад сабой
Чамусь трымае місу.

Стаіць, сандалямі туп-топ,
Куснуць гатоў, здаецца:
— Ты ж мне... Ты ж мне...
Зрабіў патоп!
Што за брыдота льецца?..

Яшчэ з дзвярэй, яшчэ здалёк
Убачыў ён:
З талеркі-люстра
На дол збягае ручаёк,
Нібы жывіца, густа.

А водар гэтакі цячэ,
Як з бутлі той вядзёрнай.
— На столь, на столь
Зірні яшчэ,—
Чаму ўся стала чорнай?..

Здаецца, дзёгцем квацануў
Зламыснік столь над люстрай!
На гэта ўсё Антон зірнуў —
Дадому зайцам шустрым!

Прыбег, каморку насцеж — ш-шух
І раптам спатыкнуўся:

Такі у нюх
Ударыў дух,
Бы ў чан з віном кульнуўся!..

Антон антонаўкі любіў —
І смак, і сок выдатны!
З-за іх рамонт Антон рабіў
Суседу.
І — бясплатны!

**ВЫДАТКІ**

Лявон Лаўшук, пусціўшы хмарай дым,
Любіў суседу часам прыгадаць:
— У горад з'ездзіць хоць гады ў рады
Адны выдаткі, мушу я сказаць.
Улетку з рынкам чорт мяне звязаў,
Павёз трускалкі у адну з нядзель
І ўсё,
Што раніцай за іх узяў,—
Нібы на вецер, выпусціў за дзень.
Паўсотні на білеты распусціў,
Футбольны мяч купіў свайму гарэзніку,
І за начлег аж трыста заплаціў...
— А дзе ж ты начаваў?
— Ды ў выцвярэзніку.

## МОЙ ГРЫША, МОЙ ХАРОШАНЬКІ!..

Мой Грыша, мой харошанькі,
Кашуля — у гарошынкі.
На ганачку пратупае —
Як пройдзе хто са ступаю.
Калі ж за клямку возьмецца
І дзверы перакосяцца.
Калі ж адчыне дзверачкі —
Забразгаюць талерачкі.
А ў хатачку праціснецца —
Ад жалю сэрца сціснецца.
А на тапчан заваліцца —
І сонейка схаваецца.
Калі ж засне —
Вартую сон.
Ён спіць, а я ўсё дзьмухаю:
Я адганяю мух,
Каб ён
Радзей хадзіў... «пад мухаю».

# КУЛЬГАВЫ ПЕГАС

## КРЫЎДА СТАРОГА ПЕГАСА

Пырнічак скубу на ўзмежку рэдкі,
Што такое стала з літбратамі? —
Ледзь не ўсе паэты і паэткі
Скакункоў жалезных забрыталі.

Засталося толькі з іх дзівіцца,
Засталося толькі ўслед жагнацца:
За такой стрыгункай-жыгуліцай
Як ні жыльця,
Мне, відаць, не ўгнацца!

Так ірвуць —
Ажно трашчаць пастронкі!
Ездакі ж усе —
Ліхога класа...
Як суддзя той,
Назіраю гонкі —
Ад варот СП і да Парнаса.

Хто каго
Да ўбочыны адцісне?
Хто каго,
Як навічка, абставіць?
Можа, час настаў,
Зусім не лішне
Ля Парнаса
Пост ДАІ паставіць?..

Пырнічак скубу на ўзмежку рэдкі.
А было ж, было ж
На добрым часе:
Ледзь не ўсе паэты і паэткі
Ласкай бралі: «Памажы, Пегасе...»

А цяпер, глынуўшы горкай крыўды,
Ля Парнаса ўлегцы галасую,
Быццам стаў нямоглы і бяскрылы —
На Парнас імкліва
Не ўзнясу іх?!

На Парнасе жвіру,
Цэглы груды —
Скуль крынічка творчасці ўзялася?
На Парнасе ўздым,
Размах паўсюды —
Гаражы будуюць на Парнасе!

**НАЙСУЧАСНЫ**
**(маналог аднаго паэта)**

Я так люблю,
Я так хачу,
Я так магу...
Эй, хто там?
На «Волзе» —
Па зямлі імчу,
А думкі —
Самалётам...

Я з гулкай музаю сваёй
Паспеў усюды прымільгацца.
Аўтаінспектары са мной
Баяцца сустракацца.

На ўсіх
Мой поспех
Жах наводзіць:
Сябры —
І тыя абыходзяць!

**НАПІШУ Я...**
**(розум аднаго пачаткоўца)**

— Абразкоў зраблю з дзесятак,
Скажуць: «Трошкі драбнавата.
Ні інтрыгі,
Ні сюжэта,
Несур'ёзна, браце, гэта...»

Напішу апавяданне —
Ды ці возьмуць да выдання:
«Шмат вады,
Залішне гумы,
На эцюд адзін —
Задумы...»

Напішу аповесць я —
Скажуць: «Тэма не твая...»

Напісаў бы я раман —
Ды ці траплю з ім у план?
Ляпнуць фразу,
Як пячатку:
«Ці не дужа для пачатку?..»

Можа, мне
За вершы ўзяцца?
А ці ж буду друкавацца?..

Шмат жадання,
Шмат ахвоты,
Ды з чаго пачаць?..
— З работы!

**СПАЛОХ**
**(жарт)**

*Эдуарду Валасевічу*

Байкар пачаў пісаць санеты.
Прайшоў між лірыкаў спалох:
— Як ты адважыўся на гэта?
— Як ты пасмеў?
— Ды як ты мог?
— Ці думаў хто, ці нават мроіў,—
Нам папсуеш дзівацтвам кроў!
Ці ж мала ёсць сваіх «герояў» —
Ці ж мала птушак і звяроў?

— Звяры і птушкі не звяліся,
Але ж бяда,
Але ж бяда:
Амаль усе — ў Чырвонай кнізе,
Згадаеш —
Проста іх шкада!

Няўжо мне, сцяўшы вусны хмура,
На мушку браць іх зноў, яшчэ?..
А што, калі пракуратура,
Як браканьера,
Прыпячэ?..

Байкар пачаў пісаць санеты...

**ПРАБЛЕМА**

Сымон Качура — хлебапёк —
Быў рыфмаваць ахвочы.
Як бохан, зборнік прывалок
Да выдаўцоў аднойчы.

— Мо б вы ўзяліся памагчы
Агораць мой набытак:
Хацеў бы ў вас «блінок» спячы,
Хоць тоненькі, як сшытак…

Рэдактар, глянуўшы з нудой
На круглы твар Качураў,
Узяў у рукі «бохан» той,
Сказаў Качуру хмура:
— Я прачытаю, а далей?
Праблема падступае:
Вас, можа б, выдалі,
Але…
Паперы не хапае…

— Затрымка ў гэтым? І ўсяго?
Ці ж гэта клопат, людзі?
Знайду знаёмага свайго —
Усё ў ажуры будзе!

Праз дзень на пляцы пад акном
Прыстаў фургон Качураў.
Быў кузавок аж каптуром
Набіт… макулатурай.
А гаспадар, як месяц ззяў,
Свяціўся твар з-пад шлема:
— Я ж не хваліўся,
Я ж казаў,
Што гэта — не праблема!

Я ўсё абдумаў, разлічыў,
На ЭВМ праверыў.
Макулатура ў нас, лічы,—
Гатовая папера!

На камбінат, каб не чакаць,
Мне можна груз адвезці?..
Маўчыць рэдактар: што сказаць?
І собіла ж улезці?!
Счакаўшы некалькі хвілін,
На ўсе ўздыхнуўшы грудзі,
Сказаў усё ж:
— Не ўдаўся «блін»,
Нічога ў нас не будзе!

— Чаму ж не будзе?
Я з душой
Зрабіць хацеў…
— Трымайце!
Да той макулатуры — свой
І рукапіс дадайце!

**ДЗЕ ТАКАЯ ЛІТСУПОЛКА ?**

Літсуполка «Жук і Жаба»
Выдавала кніжкі слаба.

Ну, а хто быў вінават?
Ды, напэўна, мудры штат.

Быў Камар за рэферэнта,
А Слімак — за рэцэнзента.

А Сляпень-целяпень —
Быў рэдактарам
З характарам!

Жаба — пільным галоўбухам,
А карэктаркаю — Муха...

Тыцкаць нос любіў Камар
Ў кожны твор і ў кожны твар.

А Слімак гугнявіў хмура:
«Што ні рукапіс — халтура!»

Ды і Жук любіў, прызнацца,
Ў кожным творы пакапацца.

А Сляпень, упарты пень?
Свежых думак
Без падстаў
ён баяўся, як хваста.

Муха — восень наступала —
Над старонкамі драмала.

Пра фінансы Жаба дбала,
Над фінансамі квактала:
«Аўтары за час кароткі,
Быццам п'яўкі, высcуць сродкі!

Кожны з іх у літпрацэс
З хабаткам уласным лез,

Падпраўлялі аўтароў,
Не згаджаўся — будзь здароў!

І таму над літсуполкай
Не свяціла ўдача Пчолкам.

Матылькі адно пырхалі,
Ад бяскніжжа — не ўздыхалі:
Матылькам-прыстасаванцам —
Не вучыцца выдавацца...

Дый малым жучкам і жабкам
Не было няўтульна, зябка...

Літсуполка «Жук і Жаба»

Выдавала кніжкі слаба.

Дружны ў ёй сабраўся штат
Толькі сунешся — назад!

Дзе такая літсуполка?
Ты, чытач,
Прыгледзься толкам!

**ЦЫКЛОНАЦЫКЛОПЫ**

Сакавік. Дажджы асеннія...
Над зямлёй,
як гнёт,
цыклоны.
Дзе ты, сонца, з цёплай сеўняю?..
Ці не злопалі
цыклопы?
. . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . .
... А там
і да рыфмы —
пяром падаць.
Васіль Зуёнак

У смутку я,
у смутку ўся Еўропа,
Па ўсёй зямлі
жалобы чорнай след:
Цыклоп,
як тую бэру,
сонца злопаў...
Хіба ж не душагуб,
не касмаед?
Я ўвесь напяўся:
зноўку злыдзень гэты
Вачыма хціва бліснуў, штось гундзіць.
Няўжо мяне прыняў ён
за ранета?
Няўжо і мне

лес сонца раздзяліць?
Цыклоп з цыклопіхай
пусціўся ў скокі,
Спраўляюць баль,
падобна сатане!
Цыклоп
(я добра знаю)
аднавокі,
А вось жа скмеціў
сонца і мяне!
А над зямлёй —
залеўныя цыклоны
Цыклопам ва ўнісон гудуць, гнятуць.
О, хіжыя цыклоны і цыклопы,
Калі ж вас антыродзічы змятуць?..
Я да мяча,
да стрэльбы я рвануўся —
Патрэбна ж неяк з ліхам
саўладаць!
...Я гэты б сон вам не расказваў, мусіць,
Але ж да рыфмы, бач,—
пяром падаць!

**СПРЭЧКА**
**(сяброўска-жартоўнае)**

На Алімп узабраўся Законнікаў,
Губернатараў лез —
Ды дарма.
Правасуд пазірае спакойненька:
Трыбуналава штосьці няма.

На Алімпе адзін з іх — карону
Захапіў, на макушку ўссадзіў.
Ты, Законнікаў,
Па закону
Сваіх брацціяў карай і судзі!

На адным не іграюць гармоніку,
Быць не можа гаворкі тут:
Губернатараў —
Не Законнікаў,
Трыбуналаў —
Не Правасуд!

## ПРЫТЧА
## (з Пятра Рабра)

Чуў неяк я: у старане адной,
(У Індыі, ці што) ёсць гэтакае свята:
Аднойчы вечарам, і, як заўжды, вясной
Людзей на плошчу сходзіцца багата.

Калі па сэрцы славы трубны грай,
Калі адчуў, што талент ёсць пры гэтым,
Залазь на слуп і опус свой чытай —
Уважна людзі слухаюць паэта.

Як па душы — пачцівасць аддаюць,
Няма гарачым воплескам упыну.
А не — то хоць паэта і не б'юць,
Але прымаюць ад слупа драбіну.

Цяпер даўмеліся, сакрэт у чым?
Тут — кліч ні кліч —
Ніхто не дапаможа:
Калі даў зевака — на слупе тым
Аж да світання кукарэкаць можаш.

*

Ці ёсць мараль у прытчы? Ёсць якраз.
На сам канец, як водзіцца, пакінуў:
Сказаў з трыбуны штось — і хутка злазь,
Не забывай ніколі пра драбіну.

## ЗМЕСТ

### НАМЕНКЛАТУРНЫ ШПУНТ

**НАШТО БАБЕ АГАРОД?**



**АДКУЛЬ ЗЛО?**



**КУЛЬГАВЫ ПЕГАС**

**Чарняўскі М.**

Лёкса ў люксе: Сатыра, гумар.— Мн.: Маст. літ., 1993.—160 с. іл.

ISBN 5-340-00921-К

Чернявский Н. Лёкса в люксе: Сатира, юмор.

Былыя, не такія ўжо і далёкія часы, якія сёння справядліва. ахрысцілі застойнымі, выцягнулі на свет нямала негатыўных з'яў і праблем, нарадзілі нямала людзей, чыё духоўнае аблічча, мараль і норавы ніяк не стасуюцца з сённяшнім абноўленым днём. Менавіта супроць іх — кар'еры стаў і падхалімаў, бюракратаў і валакітчыкаў і скіраваны вострыя выкрыdальныя словы паэта-сатырыка Міколы Чарняўскага.

© OCR: Камунікат.org, 2012
© Інтэрнэт-версія: Камунікат.org, 2012
© PDF: Камунікат.org, 2012

Литературно-художественное издание
ЧЕРНЯВСКИЙ НИКОЛАЙ НИКОЛАЕВИЧ
ЛЕКСА В ЛЮКСЕ
Сатира, юмор
Минск, издательство «Мастацкая літаратура»
На белорусском языке

Літаратурна-мастацкае выданне
ЧАРНЯУСКІ МІКАЛАЙ МІКАЛАЕВІЧ
ЛЁКСА Ў ЛЮКСЕ
Сатыра, гумар

Рэдактар Р. М. Яўсееў. Мастак Р. М. Цімохава. Мастацкі рэдактар А. М. Малышава.. Тэхнічны рэдактар Т. П. Тарасевіч. Карэктар Л. П. Бялова.

ІБ № 3699. Здадзена ў набор 21.05.92. Падп. да друку 07.10.92. Фармат 60Х90 $^{1/32}$ Папера друк. № 1. Гарнітура літаратурная. Афсэтны друк. Ум. друк. арк. 5,0. Ум. фарб. - адб. 5,19. Ул.-выд. арк. 4,77. Тыраж 1100 экз. Зак . 553. Цана 70 р.

Выдавецтва «Мастацкая літаратура» Міністэрства інфармацыі Рэспублікі Беларусь. 220600. Мінск, праспект Машэрава, 11. Друкарня імя Францыска Скарыны выдавецтва «Навука і тэхніка». 220067. Мінск, вул. Жодзінская, 18.